№ 30 (724) 10 жніўня 2011 www.nn.by

# Наша Ніва

незалежная газета

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

**Бунт жыллёвых таварыстваў**

Старонка 7



**Хай жыве пераварот!**

Старонка 12




### Тэндэнцыі

## Ці будзе яшчэ адна дэвальвацыя?

Золатавалютных рэзерваў дастаткова, каб запусціць біржу, але які курс утворыцца — загадка.

Набліжаецца другая палова жніўня, на якую прэм'ер-міністр Міхаіл Мянікові запланаваў глабальныя пераўтварэнні на валютным рынку. Беларусь знайшла грошы, патрэбныя для ўлівання на біржу і ў абменнікі. Расійска-нямецкіх $2 мільярды крэдыту ў дадатак да ранейшых $800 мільёнаў, пазычаных ад ЕўрАзЭС і $300 мільёнаў ад Азербайджана досыць, каб вытрымаць шалёны попыт, які праявіцца ў першыя дні працы свабоднага рынку. Па ацэнках экспертаў, ён можа дасягнуць $2,5—3 мільярдаў.

Але ці захоча ўлада перастрахавацца і спачатку падняць курс даляра да ўзроўню чорнага рынку? У такім выпадку попыт зменшыцца — па 7000 рублёў людзі будуць набываць валюту не так ахвотна, як па 5000 рублёў. У дадатак, такія дзеянні відавочна ўхваляць Міжнародны валютны фонд і Расія — галоўныя крэдыторы Беларусі.

Але што ж рабіць тады з паказчыкамі? Сярэдні заробак памерам $250, падзенне ўнутранага попыту, дзяржаўны доўг, блізкі да 100% ВУП — тое, чаго ўлада баіцца як полымя. Да таго ж, яшчэ адна дэвальвацыя забіла б апошнюю веру ў беларускі рубель.

Урад і Нацбанк стаяць перад цяжкім выбарам.

**Ягор Марціновіч**

# Беларускі кандыдат на Нобелеўскую прэмію

Алесь Бяляцкі збіраў грошы для рэпрэсаваных і звольненых. Улады арыштавалі яго за нясплату падаткаў. **Старонка 3.**



PHOTO.BYMEDIA.NET

## Вілейскае вадасховішча апанавала сіняя пена ядавітага адцення



**Цэлыя касякі дохлай рыбы аблепленай тым самым рэчывам. Між тым, ваду з вадасховішча п'е палова Мінска. Старонка 8.**

## Чарга на жыллё па новых правілах

У Мінску ўстаноўленыя новыя нормы для прыняцця грамадзян у чаргу на паляпшэнне жыллёвых умоў. Новы парадак рэгламентуецца ўказам № 346 «Аб унясенні дапаўненняў і зменаў у некаторыя ўказы прэзідэнта Рэспублікі Беларусь».

Указам прадугледжваецца зменшыць да 10 квадратных метраў норму забяспечанасці агульнай плошчай жылога памяшкання ў Мінску (раней было 15 квадратных метраў). Апроч таго, да 10 гадоў павялічаны мінімальны тэрмін знаходжання ў сталіцы. Раней было дастаткова пражыць у Мінску 5 гадоў.

Указ уступае ў сілу 10 жніўня 2011 года, але тых, хто стаў у чаргу раней, не зачэпіць.

**ЯМ**



### У нумары

# У Беларусі ствараецца аналаг ФБР

**Следчы камітэт мусіць зрабіць следства незалежным.**

З 1 студзеня 2012 года ў Беларусі будзе створаны Следчы камітэт — аналаг амерыканскага ФБР і расійскага Следчага камітэта. Праўда, падначалены ён будзе Аляксандру Лукашэнку.

Кіравацць новай структурай мусіць чалавек, які «разумее жыццё ў краіне і знаёмы са следчым працэсам», сказаў Лукашэнка. Не выключана, што такім чалавекам могуць палічыць Андрэя Шведа —намесніка генпракурора, які каардынаваў следства па справах Бябеніна, выбуху ў метро, а таксама «правяраў», ці катавалі палітвязняў у турме КДБ.

Адказнымі за стварэнне камітэта прызначаны дзяржсакратар Рады бяспекі і старшыня Камітэта дзяржкантролю.

Нягледзячы на тое, што новы камітэт непазбежна будзе прыладай у руках Лукашэнкі, з'яўленне новай структуры —гэта крок наперад. Следства стане самастойным. Гэта адпавядае практыцы прававых дзяржаў Захаду.

Любое спрашчэнне следчай сістэмы — гэта хутчэй плюс, кажуць эксперты. Функцыянаванне адной арганізацыі з'яўляецца больш простым і лагічным, чым паралельнае існаванне следства ў чатырох розных ведамствах. Пры гэтым мусіць знікнуць тая канкурэнцыя, якую можна назіраць паміж гэтымі ведамствамі цяпер. Прычым стварэнне Следчага камітэта плануецца правесці за адзін раз —Лукашэнка выказаўся супраць паэтапнага пераўтварэння.

Праўда, новая структура можа мала памяняць у практыцы выбівання паказанняў, калі ўпор будзе рабіцца на «эфектыўнасць працы» камітэта. Для таго ж ФБР «эфектыўнасць» не з'яўляецца асноўным крытэрам.

**Юрась Ускоў**

**Генерал-лейтэнант міліцыі ў адстаўцы Мечыслаў Грыб: Добра!**

«У большасці еўрапейскіх краін такая ўстанова, як Следчы камітэт, ёсць. Такі камітэт спрабавалі стварыць і ў Беларусі яшчэ ў 90-я гады, ён пратрымаўся гадоў з пяць, аднак пасля ізноў падзяліўся на ведамствы. Плюсы камітэта відавочныя: у краіне мусіць існаваць падзел на незалежную аператыўна-вышуковую дзейнасць, незалежнае следства, незалежны суд і незалежныя органы адбыцця пакарання. У Беларусі дзейнасць гэтых установаў вельмі зблытана. Напрыклад, МУС звязана і са следствам, і з адбыццём пакарання. Але такі камітэт не мусіць падпарадкоўвацца прэзідэнту, хто б ён ні быў, Лукашэнка ці хто іншы. Такая ўстанова мусіць быць незалежнай».



Беспарадкі ў Тотэнхэме пачаліся пасля смерці 29-гадовага Марка Дагана, які загінуў ад кулі паліцыянта.



# З Тотэнхэма разгарэлася полымя

**У Англіі не сціхаюць масавыя беспарадкі ў рабочых раёнах.**

Падобных здарэнняў у Вялікабрытаніі не было з 1980-х. Ад 6 жніўня ў Лондане працягваюцца масавыя беспарадкі. Сотні людзей уступаюць у сутычкі з паліцыяй, паляць аўто і дамы, рабуюць крамы. У панядзелак хваля гвалту перакінулася на іншыя ангелійскія гарады.

Першым запалаў бедны раён брытанскай сталіцы Тотэнхэм. Сотні «пацаноў» сабраліся ў суботу каля мясцовага паліцэйскага пастарунка, каб даведацца, як ідзе следства па справе гібелі 29-гадовага жыхара раёна Марка Дагана. Ён загінуў у перастрэлцы ў чацвер 4 жніўня. Па версіі паліцыі, ён першым стрэліў у паліцыянта і параніў яго. Той, адстрэльваючыся, забіў нападніка.

Сход перарос у масавыя сутычкі з паліцыяй. Запалалі аўто і крамы, з'явіліся марадзёры. У нядзелю пагромы і сутычкі перацяклі ў іншыя раёны сталіцы. Стала відавочна, што лонданская паліцыя не гатовая да падобнага сцэнару. У англійскай прэсе з'явіліся згадкі пра чарговую летнюю алімпіяду, якую Лондан прыме ў сябе ў наступным годзе.

У панядзелак запалалі пажары ў іншых гарадах Вялікабрытаніі: Бірмінгеме, Брысталі, Ліверпулі і Манчэстэры. Паліцыя заявіла, што ў нападах на крамы і гандлёвыя цэнтры ўдзельнічаюць крымінальныя групоўкі, якія маскіруюцца пад удзельнікаў пратэсту. Сярод марадзёраў былі заўважаныя і грамадзяне, якія раней не выклікалі пытанняў у праваахоўнікаў.

У аўторак у Лондане ад ранаў, атрыманых у сутычках, памёр 26-гадовы малады чалавек.

Прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі Дэвід Кэмеран быў вымушаны прыпыніць свой адпачынак і вярнуцца ў Лондан. Ён назваў падзеі ў англійскіх гарадах «чыстым крыміналам» і паабяцаў вярнуць парадак на вуліцы брытанскіх гарадоў.

**Сямён Печанко**

## Сцісла

• **Галоўурачоў бальніц Мінска звазілі на экскурсію ў турму.** Тлусты намёк: галоўныя дактары сталічных клінік і іх намеснікі пабывалі 9 жніўня на экскурсіі ў следчым ізалятары № 1 МУС на вуліцы Валадарскага ў Мінску. Гэтым візітам у СІЗА Генеральная пракуратура працягнула антыкарупцыйную прафілактычную кампанію сярод чыноўнікаў. Раней тут пабывалі прадстаўнікі міністэрстваў прамысловасці, па падатках і зборах, сельскай гаспадаркі і харчавання, архітэктуры і будаўніцтва. Магчымасцю паназіраць зверху праз краты за шпацырам змешчаных пад варту ва ўнутраным двары СІЗА ніхто з медыкаў не скарыстаўся. Вельмі неахвотна яны зазіралі і заходзілі ў камеры, якія адмыкалі з нагоды экскурсіі.

• **Кошт навучальных нэтбукаў складзе $330, а захоўвацца яны будуць у школах.** Пра гэта паведаміў намеснік дырэктара Парка высокіх тэхналогій Аляксандр Марцінкевіч. Нэтбук камплектуецца працэсарам Intel Atom, 1 ГБ аператыўнай памяці і цвёрдым дыскам аб'ёмам 320 ГБ. У камплекце пастаўляецца 15 навучальных праграм і лічбавых падручнікаў. Нэтбук выбляецца ў супрацьударным і воданепранікальным корпусе. Тым не менш, нэтбук будзе захоўвацца ў школе, і яго не будуць перадаваць для хатняга выкарыстання.

• **Мінтранс просіць павялічыць штраф для «зайцоў» да 35 тысяч рублёў.** Цяпер штраф складае 7 тысяч рублёў — гэта найніжэйшы ў Еўропе паказчык.

• **У мінскім метро памёр чалавек.** 44-гадовага мужчыну знайшлі ў пераходзе між станцыямі «Купалаўская» і «Кастрычніцкая». Прычыны смерці высвятляюцца, крымінальнай подбіўкі не ўгледжваецца.

• **Сухарава затапіла брудам.** Прарыў каналізацыі перапатыў вуліцу Шаранговіча ў возера. У аўторак 9 жніўня ў 8.00 там прарвала каналізацыю. Каналізацыйныя воды разам з пяском затапілі мясцовую аўтастаянку. На час ліквідацыі быў прыпынены і рух тралейбусаў.

• **Амаль да канца тыдня будуць дажджы.** Але ад нядзелі зноў сцяплее. Агулам жа жнівень чакаецца трохі цяплейшым за норму, мяркуюць сіноптыкі.

**ЮУ, СГ**

## Самае чытанае на nn.by за 3—9 жніўня

1 Палярнае ззянне над Беларуссю

2 Як нелегальна зарабляюцца дзясяткі тысяч даляраў на міжнародных рэйсах

3 Трагедыя ў Міры

4 Дзень ВДВ: без фантана, але ў Свіслачы

5 «Адмарозкі ў штацкім рыхтавалі правакацыі» + відэа

6 Даляр не спыніць і не стрымаць

7 Літва перадала Мінску інфармацыю пра рахункі беларусаў

8 Скутар-Фэст: у кароткіх спадніцах і гальштуках

9 Фотафакт: Машына са спецназам міліцыі перакулілася ў ДТЗ

10 10 фактаў з жыцця Алеся Бяляцкага

## Дзякуй падпісчыкам, якія падпісваюцца праз Рэдакцыю

В.Л., В.М. з Лепельскага раёна.
А.Ю. з Дрыбінскага раёна.
Ірыне Ц., Л.Ш., Г.К., Г.Н., В.Г., Андрэю А., Д.П., Ліяне Ш., Л.З., В.Г., Алене Г. з Мінскага раёна.
Мікалаю К., Барысу С., Генадзю Я. са Светлагорскага раёна.
Віталію Г. з Чачэрскага раёна.
Івану З. з Пружанскага раёна.
М.Б., А.С., Г.К., Н.Ж., Н.Р., Н.Б., І.Х., А.С., І.С., Генадзю К., В.Б. з Гродна.
Паўлу А. з Гомельскага раёна.
Мікалаю Т. з Асіповіцкага раёна.
Юрасю Ч., Грыгорыю К., Валерыю К. з Мазырскага раёна.
Руслану К., Андрэю Н., Сяргею А., С.Н., Мікалаю К., Алегу Р. з Полацкага раёна.
Пятру Б. з Пастаўскага раёна.
Івану Д. з Мядзельскага раёна.
Галіне І., Антону Б. з Верхнядзвінскага раёна.
А.К., І.М., В.П. з Магілёва.
Тадэвушу Ш., Ніне Б., Святлане Ц., Г.Л., А.М., Іне Б. з Маладзечанскага раёна.
А.Г. з Бабруйскага раёна.
В.Ц., Аляксандру П., Мікалаю К., В.Т. са Жлобінскага раёна.
Алене І., Уладзіміру М., А.П., В.М., Міхаілу Ш., Пятру Б. з Брэста.

# Не забудзьцеся падпісацца!

## Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 10000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 4 гады даказала сваю надзейнасць. Мы зможам даставіць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г. Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага пераказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Адд. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Ад аплаты: За газету «Наша Ніва»

## Падпіска праз «Белпошту»

**Падпіска праз «Белпошту»** на 2-е паўгоддзе:

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 9210 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 10626 руб./месяц.

Падпісацца можна на кожнай пошце.

# Літва перадала Мінску інфармацыю пра рахункі беларусаў

І Польшча, магчыма, таксама.

Калі 4 жніўня да праваабаронцы Алеся Бяляцкага на плошчы Перамогі падышлі асобы ў цывільным, яго сэрца, напэўна ж, ёкнула. Яшчэ месяц назад, на пачатку ліпеня яго выклікалі ў падатковыя органы. Тады яму і стала вядома, што афіцыйныя інстанцыі Літвы выдалі беларускім уладам усю інфармацыю пра грашовыя сумы, якія ён атрымліваў на свой рахунак у банках гэтай краіны. Як праваабаронца, Бяляцкі ведаў, што гэта дастатковая падстава для арышту.

Тую самую інфармацыю даслалі і яшчэ на трох актывістаў з ліквідаванага праваабарончага цэнтра «Вясна». Яны планавалі даць прэс-канферэнцыю на мінулым тыдні ў Мінску, але не паспелі. Паплечнік Бяляцкага, юрыст Валянцін Стэфановіч сустрэўся з журналістамі 5 жніўня ў Вільні. Там працуе Беларускі дом правоў чалавека, дзе і адбылася прэс-канферэнцыя.

Паводле слоў Стэфановіча, інфармацыя аб рахунках была перададзеная Беларусі ў сакавіку. У пачатку ліпеня Стэфановічу і Бяляцкаму беларускія падаткавікі прад'явілі акт і раздрукоўкі банкаўскіх рахункаў з літоўскіх банкаў «DnB Nord» і «SEB».

Адкуль беларускім уладам стала вядома пра гэтыя рахункі, Стэфановіч не ўдакладняў. Але можна меркаваць, што нейкая інфармацыя трапіла ў КДБ з камп'ютараў, сканфіскаваных у «вясноўцаў» у ноч пасля выбараў, з 19 на 20 снежня.

Грунтуючыся на тых звестках, і мог быць аформлены запыт у кампетэнтныя літоўскія органы.

Намеснік міністра юстыцыі Літвы Томас Вайткявічус прызнаўся журналістам, што гэта праўда. Вайткявічус сказаў, што сёлета Літва перадала для Беларусі інфармацыю пра 400 чалавек. Сярод іх былі Бяляцкі і яшчэ 3 праваабаронцы. «Прозвішча Бяляцкага не было ідэнтыфікаванае як прозвішча віднага дзеяча апазіцыі», — прызнаў віцэ-міністр.

Ён сцвярджае, што «інфармацыя пра банкаўскія рахункі ў Літве беларускіх апазіцыйных арганізацый прадастаўлена службам Беларусі з прычыны «занадта вялікага даверу да беларускіх установаў».

Літоўскія СМІ пішуць, што старанны Мінюст выбіваў з банкаў гэтую інфармацыю праз суд.

Цяпер літоўскія чыноўнікі кусаюць локці. У знак пратэсту супраць «выкарыстання хадайніцтваў аб прававой дапамозе для палітычнай расправы», міністэрства на неабмежаваны час прыпыніла прадастаўленне прававой дапамогі Беларусі.

«Палітвязняў не павінна быць у Еўропе!» — сказаў Вайткявічус.

У Літве вакол «здрады», як пішуць СМІ, разгарэўся вялікі скандал. Літоўскія дыпламаты кажуць, што справа можа прывесці да адстаўкі міністра юстыцыі краіны. Пацярпела і міжнародная рэпутацыя Вільні.

Магчыма, аналагічную інфармацыю передала беларускім уладам і Польшча. Дэмакратычныя краіны спрацавалі як прававыя дзяржавы: яны дзеляцца інфармацыяй.

Стэфановіч расцаніў дзеянні літоўскага ведамства як «непаразуменне, якое, аднак, дорага абыдзецца беларусам».

На кватэры, лецішчы і офісе Бяляцкага прайшлі ператрусы. На частку маёмасці накладзены арышт.

Бяляцкі прызнаны падазраваным па крымінальнай справе, заведзенай па частцы 2 артыкула 243 Крымінальнага кодэкса Беларусі (ухіленне ад выплаты сум падаткаў, збораў у асабліва буйным памеры). Максімальнае пакаранне па гэтым артыкуле прадугледжвае пазбаўленне волі да сямі гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

Як вынікае са словаў Стэфановіча, Бяляцкі і праваабаронцы атрымлівалі на рахункі грошы, што сцякаліся з усяго свету. Гэтыя сродкі ішлі на патрэбы рэпрэсаваных і звольненых па палітычных матывах. Сапраўды, вясноўцы за 15 гадоў дапамаглі тысячам людзей.

**Сяргей Гезгала**




Фота 2011 года.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## КДК налічыў Бяляцкаму 143,7 млн рублёў «нявыплачанага падатку»

На сайце Камітэта дзяржаўнага кантролю з'явілася паведамленне, што 4 жніўня «органамі фінансавых расследаванняў па факце няплаты падаткаў у асабліва буйным памеры ў дачыненні да грамадзяніна 1962 г.н. распачатая крымінальная справа па ч.2 арт.243 КК».

Прозвішча не названае, аднак ёсць падставы меркаваць, што маецца на ўвазе Алесь Бяляцкі — год нараджэння супадае. «Праверачнымі мерапрыемствамі ўстаноўлена, што сума даходу, не паказаная ім у падатковых дэкларацыях і якая падлягае падаткаабкладанню, склала больш за 1 млрд рублёў, а сума нявыплачанага дадзеным грамадзянінам падаходнага падатку склала 143,7 млн. рублёў, г.зн. у асабліва буйным памеры. У цяперашні час праводзяцца следчыя дзеянні», — адзначаецца ў паведамленні.

**Сяргей Мікулевіч**

**Урад ФРГ запатрабаваў неадкладнага вызвалення Алеся Бяляцкага**

Гэтую заяву зрабіў упаўнаважаны федэральнага ўрада па правах чалавека Маркус Лёнінг. Паводле яго слоў, германскі ўрад «рэзка асуджае прымяненне крымінальнага заканадаўства для таго, каб з палітычных прычынаў прымусіць маўчаць яшчэ аднаго актыўнага прадстаўніка беларускай грамадзянскай супольнасці».

З аналагічнымі заявамі выступілі ЗША, Вялікабрытанія, Літва, а таксама шматлікія праваабрончыя арганізацыі.

**Вясноўцы: Справа Бяляцкага — помста за матэрыяльную дапамогу рэпрэсаваным**

«Я думаю, гэта звязана з тым, што мы аказвалі не толькі прававую, але і матэрыяльную падтрымку ахвярам рэпрэсій. Менавіта з гэтым», — заявіла праваабаронца Таццяна Равяка.

Калегі-праваабаронцы заяўляюць пра намер працягваць працу.

**Падпісацца пад паручальніцтвам за Бяляцкага можна ў наступных месцах.**

Праваабаронцы-вясноўцы — Мінск, пр.Незалежнасці, 78а-48. Т.: (017) 331-08-44. Яны маюць таксама кантакты людзей у рэгіёнах, якія збіраюць паручальніцтвы.

Беларускі Хельсінкскі Камітэт — Мінск, вул.Лібкнехта, 68–1201. Т.: (017) 222-48-00.

Беларуская асацыяцыя журналістаў — Мінск, вул.Камсамольская, 7–32. Т.: (017) 203-63-66.

Управа Партыі БНФ — Мінск, вул. Крапоткіна, 93а.

КАМЕНТАР

## Беларускі кандыдат на Нобелеўскую прэмію

Штрафы рэпрэсаваным, адвакаты вязням, дапамога звольненым. Нехта мусіў гэта рабіць, і гэта рабіў Бяляцкі.

Беларускае заканадаўства не дае легальнай магчымасці атрымліваць грошы для такога. Таму праваабаронцы, як аказалася, выкарыстоўвалі рахункі за мяжой.

Лукашэнкаўцы зачапіліся за гэта. Хоць Бяляцкі траціў тыя грошы на грамадскую дзейнасць, а не на сябе.

Лукашэнкаўскія СМІ, дарэчы, спрабавалі згуляць на людской зайздрасці. Бяляцкага ўпікалі кватэрай і будынкам — у якіх працавалі праваабаронцы.

Як расказалі калегі Бяляцкага, справа цягнецца ўжо некалькі месяцаў. Улады яўна хацелі, каб Бяляцкі застаўся за мяжой, уцёк. Бяляцкі не паддаўся.

Абвінавачванне Бяляцкаму нікога не падмане ні ў краіне, ні за межамі. Бяляцкага вылучалі на Нобелеўскую прэмію яшчэ ў 2007-м, і арышт толькі павялічыць ягоныя шанцы. Але галоўная ўзнагарода такому веруючаму чалавеку, як Бяляцкі, — удзячнасць тых тысяч людзей, якім вясноўцы дапамаглі.

**Мікола Бугай**

## «Як будзе, так і будзе»

10 фактаў з жыцця Алеся Бяляцкага.

1. Алесь Бяляцкі нарадзіўся ў Карэліі ў 1962 годзе. Туды яго бацькі выехалі з Беларусі на заробкі.




VYTOKI.NET

**1980 год. У Ялце на магіле Максіма Багдановіча.**

2. Будучы праваабаронца пачаў прынцыпова размаўляць па-беларуску ў часы студэнцтва. У 1981 годзе ў Гомелі ён першым на факультэце стаў паўсюль гаварыць на роднай мове. Калі ён скончыў універсітэт, там па-беларуску размаўлялі ўжо некалькі дзесяткаў чалавек.

3. Алесь Бяляцкі у маладосці браў актыўны ўдзел у нефармальнай, фактычна падпольнай групоўцы. Яе асноўнай задачай была пабудова незалежнай Беларусі. З таварышамі ён набываў друкавальныя машынікі і вырабляў улёткі.

4. Алеся Бяляцкага яшчэ ў 80-я вербавала КДБ —калі ён быў старшынёй аб'яднання маладых літаратараў «Тутэйшыя». На першым жа спатканні Бяляцкі адмовіўся працягваць нейкія кантакты.

5. У 1996 годзе Алесь Бяляцкі ўзначаліў «Вясну». Пасля ён прызнаецца: я не разлічваў, што давядзецца займацца праваабарончай дзейнасцю столькі год.

6. У сакавіку 2006 году Вацлаў Гавал уручыў Алесю Бяляцкаму за праваабарончую дзейнасць прэмію Homo Homini.

7. Алеся Бяляцкага двойчы вылучалі на Нобелеўскую прэмію міру. У 2007 годзе віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека быў у так званым шорт-спісе верагодных кандыдатаў.

8. Муніцыпалітэт гораду Генуя ў 2010 годзе надаў старшыні праваабарончага цэнтра «Вясна» ганаровае грамадзянства.

9. Алеся Бяляцкага, як і на многіх прадстаўнікоў апазіцыі, у пачатку 2011 года атакавала «Советская Белоруссия».

10. Любімы дэвіз Алеся Бяляцкага: «Як будзе, так і будзе». Найлепшая парада, якую, ён, па яго словах, атрымаў: «Трымай язык за зубамі».

**Мікола Чарняўскі, «Салідарнасць»**

# «Беларуськалій» стаў нарасхват, але яго здалі ў ламбард

**Нягледзячы на прапанову ад Індыі, лукашэнкаўцы за $2 мільярды заклалі 35% акцый кампаніі.**

«Беларуськалій» ізноў апынуўся ў цэнтры ўвагі. Індыя празрыста намякнула беларускаму ўраду пра гатоўнасць набыць пакет акцый кампаніі. Пра гэта заявіў пасол Індыі ў Беларусі Манодж Кумар Бхарата. «Мы з нецярпеннем чакаем рашэння ўрада Беларусі», — дадаў ён. Інтарэс Індыі не дзіва. На працягу апошніх трох гадоў беларускі экспарт у гэту азіяцкую краіну агулам склаў $1,13 мільярда. 87% ($0,99 мільярда) з іх — каліўныя ўгнаенні.

Але беларускія ўлады аказаліся ў даволі крытычным становішчы, таму, нягледзячы на пачатак перамоваў з Індыяй, яны заклалі больш за трэціну акцый «Беларуськалія». Прычым пра гэта стала вядома з Расіі. Як заявіў кіраўнік Сбербанка Герман Грэф на сустрэчы з Уладзімірам Пуціным, ягоны банк і нямецкі Deutsche Bank разам дадуць крэдыт «Беларуськалію» на $2 мільярды. Прычым Пуцін дадаткова падкрэсліў, што грошы былі выдадзены на ягоную асабістую просьбу. «Для Беларусі гэта, вядома, няпросты перыяд часу, але для нас гэта дастаткова надзейны, добры крэдыт», — сказаў Грэф.

Па словах расійскага банкіра, у якасці забеспячэння па крэдыце будуць прадастаўлены экспартныя кантракты (кампанія 90% прадукцыі экспартуе), а таксама 35% акцый прадпрыемства. Іх аформяць у заставу (залог). «Усё гэта робіцца па ўсіх міжнародных стандартах разам з нашымі заходнімі партнёрамі», — заявіў Грэф. Калі Беларусь не здолее выплаціць крэдыт, акцыі «Беларуськалія» пяройдуць ва ўласнасць крэдытораў.

Нагадаем, што яшчэ месяц таму Лукашэнка заяўляў, што ацэньвае 100% акцый кампаніі у $30 мільярдаў. Натуральна, заключаная дамова — не продаж, але яна характарызуе рынкавы кошт акцый «Беларуськалія».

Звяртае на сябе ўвагу, што «беларускае пытанне» супольна вырашаюць найбуйнейшы нямецкі і расійскі банкі. Гэта яшчэ адна праява супрацы Расіі і Захаду ў беларускім пытанні. Пры разглядзе беларускай заяўкі на крэдыт ЕўрАзЭС міністр фінансаў Расіі Кудрын таксама прапаноўваў беларускім уладам зважаць на патрабаванні МВФ.

Як стала пазней вядома агенцтву «Інтэрфакс», беларускія ўлады мелі накіраваць сродкі ад крэдыту ў золатавалютныя рэзервы. Гэта дазваляе меркаваць, што стане магчымым аднаўленне інтэрвенцый Нацбанка на валютным рынку. Магчыма, пасля прыходу гэтага крэдыту ў абменніках ізноў з'явіцца валюта. Пытанне толькі, па якім курсе.

**Сяргей Гезгала**

# Даляр не спыніць і не стрымаць

**Чорны курс дайшоў да 7000 рублёў і працягвае расці.**

На чорным наяўным рынку курсы валют працягваюць свой імклівы рост. Па стане на панядзелак курс продажу амерыканскай валюты на сайце Пракапові.ч перайшоў псіхалагічную мяжу ў 7000 рублёў. Ён склаў 7022 рублі, а курс куплі — 6767 рублёў. Нават калі падлічыць сярэднюю лічбу, выйдзе курс 6895 рублёў. Гэта ўжо на 38% вышэй за афіцыйны курс Нацбанка, зафіксаваны на «прыгожай» лічбе 4999 рублёў, і на 130% за паказчык пачатку года. Прычым, мяркуючы па трэндзе росту, у бліжэйшыя дні даляр працягне пад'ём.

Літоўскія банкі апошнімі днямі гуляюць на апярэджанне: купіць даляр за беларускія рублі можна, аддаўшы 7390—7500 рублёў, пры продажы можна атрымаць 6500—6600 рублёў.

Еўра ж на сайце Пракапові.ч замёр на адзнацы 9500—9700 рублёў, расійскі рубель — 235—245 рублёў.

Нягледзячы на суровыя пакаранні за незаконныя валютныя аперацыі, чорны рынак квітнее. Валютчыкі дзяжураць каля вялікіх абменнікаў і ў крамах, не адмаўляюць у чорным абмене і таксісты. Масава здзяйсняюцца абменныя аперацыі і паміж калегамі на прадпрыемствах.

Тым часам чыноўнікі пачынаюць рыхтаваць грамадства да новай дэвальвацыі. Міністр эканомікі Мікалай Снапкоў канстатаваў сваё разуменне існавання трох курсаў. «Гэта 5000 рублёў — курс Нацбанка, 6200 рублёў — ценевы наяўны курс і 6800 — ценевы безнаяўны». Іншымі словамі, урад прызнае неабходнасць дэвальвацыі яшчэ на 25—35%. Праўда, і такой змены курса наўрад ці будзе дастаткова для знаходжання рынкавай раўнавагі.

**Ягор Марціновіч**

| Валюта | Курс Нацбанка на 31.12.2010 | Курс Нацбанка на 09.08.2011 | Курс прапановы на Пракапові.ч на 09.08.2011 | Курс у абменніку Вільні на 09.08.2011 |
|---|---|---|---|---|
| Даляр | 3000 | 4999 | 6767—7022 | 6600—7380 |
| Еўра | 3973 | 7186 | 9637 | 10760 |
| Расійскі рубель | 98 | 175 | 243 | — |

## Капусту танней выкінуць, чым прадаць

**Беларускі эканамічны цуд у дзеянні.**

На Піншчыне ўраджай капусты вывозяць на сметнікі. Летась закупная цана на яе была 1600 руб., сёлета — 200.

«Яна парасла вельмі вялікая, ды ніхто яе не хоча. А за 100—200 рублёў неяк няма жадання здаваць яе зусім», — распавёў тэлебачанню «Белсат» Аляксандр Якшук, жыхар вёскі Альшаны Пінскага раёна.

4 жніўня Міністэрства сельскай гаспадаркі павысіла ў 1,3–2 разы закупныя цэны на ўраджай 2011 г. На ячмень і цукровыя буракі — на 67 %, грэчку — на 68 %, рапс — на 100 %, фуражны ячмень, жыта, трыцікале, пшаніцу, авёс, проса, гарох і кукурузу — на 30 %. Але на прадукцыю дробных прыватнікаў тое не распаўсюджваецца.

**ЯВ**

## Стаўкі па рублёвых дэпазітах дасягнулі 43% гадавых

Імклівы рост стаўкі рэфінансавання і дэфіцыт валюты ў краіне прымушаюць беларускія банкі рабіць усё больш прывабныя прапановы.

Стаўкі па рублёвых дэпазітах дасягнулі ажно 43% гадавых! Такую прапанову робіць «Сомбелбанк» для тых, хто перавядзе валютныя ўклады ў рублёвыя. Дэпазіт «Жаданы рубель — вялікі куш» робіцца тэрмінам 12 месяцаў, прычым працэнтная стаўка фіксаваная. Калі казаць пра новыя заключаныя дамовы па ўкладах, то найвыгаднейшыя прапановы складаюць 33–35% з плаваючай стаўкай. Найлепшая прапанова з фіксаванай стаўкай — 31% на 6 месяцаў ад «Белрасбанка».

Што да валютных укладаў, то тут самыя выгадныя прапановы — 11% гадавых на тры альбо шэсць месяцаў ад «Дэльтабанка». Стаўкі па спажывецкія крэдытах тым часам дасягаюць гіганцкіх 50%.

**ЯМ**

## Сталічная нерухомасць таннее, але прапанова ўсё яшчэ складае $1330

Кошт сталічнай нерухомасці пакрыху змяншаецца. Вядома ж, гаворка вядзецца пра сумы ў далярах. Згодна з падлікамі сайта Realt.by, сярэдні кошт прапановы квадратнага метра складае $1332. Лічба зніжаецца, але нязначна.

Перад пачаткам крызісу, у сакавіку 2011 года, яна складала $1375. Падзенне цаны склала каля 3%. У пачатку года прапанова квадратнага метра знаходзілася каля $1350.

Сумы рэальных угод, якія фіксуе Нацыянальнае кадастравае агенцтва, звычайна адрозніваліся ад сумы прапановы на $100–120 за квадратны метр.

У чэрвені ж медыянны кошт квадратнага метра ў Мінску склаў усяго $1003, што на 28% ніжэй, чым у траўні ($1284 за кв.м.). Такія ж лічбы — $1270–1280 — фіксаваліся і ў канцы 2010 года.

**ЯМ**




прагноз на канец 2011 года, трлн $

прагноз на канец 2011 года, млрд $

# Дагонім і перагонім?

**Амерыканскі доўг гіганцкі. Але і ў нас не меншы!**

Дзяржаўныя СМІ нагнятаюць сітуацыю вакол дэфолту ЗША, які так і не стаў рэальнасцю. У Амерыкі гіганцкі замежны доўг — $14,5 трыльёна, які няўмольна падбіраецца да памеру гадавога ВУП краіны. А вось доўг Беларусі нібыта знаходзіцца пад кантролем.

Што ж, паспрабуем параўнаць замежны валавы доўг краіны і гадавы аб'ём ВУП для ЗША і Беларусі. Спачатку пра Амерыку. Мяркуецца, што да канца 2011 года доўг дасягне больш чым 100% ад ВУП.

Што да доўгу Беларусі, то, па аптымістычных падліках віцэ-прэм'ера Сяргея Румаса, ён складзе 69—73% ад гадавога ВУП. І тое ў выпадку, калі ўрад утрымае афіцыйны курс на ўзроўні 5000 за даляр. Калі ж курс падрасце да 6000, то і запазычанасць будзе вылічвацца ў памеры каля 85%.

Праўда, памеры эканомік розняцца.

**ЯМ**

### Сцісла

• **На 5% падаражэюць сацыяльна значныя тавары.** З 3 жніўня міністэрства эканомікі павялічыла адпускныя цэны на хлеб, малако, кефір, смятану, тварог, свініну і ялавічыну.

• **Калгасы Беларусі атрымаюць чарговыя $440 мільёнаў.** Нягледзячы на крызіс, беларускія банкі выдадуць калгасам крэдытаў на 2,17 трыльёна рублёў. Грошы будуць накіраваны на збор ураджаю 2011 года. Як і раней, асноўную ношу панясе «Беларусбанк».

• **Кітай: даляр варта замяніць новай рэзервовай валютай.** Кітай абрынуўся з рэзкай крытыкай на амерыканскія ўлады за няслушную эканамічную палітыку. Агульны аб'ём валютных рэзерваў Кітая перавышае $3,2 трыльёна, прычым каля 60–70% складаюць даляравыя актывы.

• **М'янма як Беларусь.** Чыноўнікі М'янмы збіраюцца ўніфікаваць абменны курс у краіне. Афіцыйны курс урада складае каля шасці к'ятаў за кожны даляр ЗША, а чорны дасягае 800 к'ятаў. М'янма ўжо звярнулася па дапамогу да Міжнароднага валютнага фонду. М'янма — васал Кітая, краіна мяжуе з Індыяй і Тайландам.

**ЯМ**

# Наталля Радзіна: «Я папрасіла палітычнага прытулку ў Літве»




**Наталля Радзіна пасля выхаду з «амерыканкі». Студзень-2011.**

Некалькі месяцаў рэдактарка сайта «Хартыя'97» хавалася ў Маскве, а цяпер перабралася ў Вільню.

«Мой шлях у Еўропу доўжыўся роўна чатыры месяцы, — піша яна. — Такі працяглы шлях тлумачыцца проста: у турме КДБ мне не вярнулі пашпарт. Хоць гэта зусім незаконна — пры вызваленні пад падпіску аб нявыездзе да суда абвінавачванаму абавязаны вярнуць яго дакументы».

Сеўшы ў ноч з 30 сакавіка на 1 красавіка ў цягнік «Брэст—Мінск», каб ехаць на допыт у Мінск, Наталля Радзіна выйшла ў Лунінцы і з'ехала на машыне, у якой яе чакалі сябры, у Маскву.

«1 красавіка я ўжо была за межамі Беларусі і вельмі рада, што змагла такім чынам павіншаваць беларускіх чэкістаў з іх прафесійным святам», — піша Наталля.

У Расіі яна звярнулася па дапамогу ва Упраўленне вярхоўнага камісарыята ААН па справах уцекачоў у РФ. Праходжанне працэдураў заняло некалькі месяцаў.

У Маскве яна хавалася на кватэры сяброў. Баялася, што яе могуць выкрасці і вывезці назад у Беларусь беларускія спецслужбы. Ёй дапамагалі расійскія праваабаронцы.

«Пасля прызнання мяне ўцекачом па лініі ААН першай дзяржавай, якая аказала мне міжнародную падтрымку, сталі Нідэрланды. 28 ліпеня, пасля афармлення праязных дакументаў, я вылецела з Масквы ў Амстэрдам.

Я вельмі ўдзячная Нідэрландам за сваё выратаванне, але праз тры дні з'ехала ў Літву. Пасля прэзідэнцкіх выбараў сайт charter97.org быў зарэгістраваны ў гэтай краіне, тут знаходзіцца мой калектыў, і паўнавартасна выконваць свае функцыі рэдактара я магу сёння толькі ў Вільні. 4 жніўня я папрасіла палітычнага прытулку ў Літве», — расказвае Наталля Радзіна пра свой цяперашні стан.

«За ўсе гэтыя месяцы я на сваёй скуры пакаштавала, што такое быць уцекачом. І магу шчыра сказаць: зайздросціць няма чаму. Я ніколі б не з'ехала з Беларусі, калі б, як спяваў Высоцкі, не «абклалі» з усіх бакоў. Таму прыйшлося адказваць, як я лічу патрэбным. Гуляць па правілах, якія сёння ўсталяваў у Беларусі КДБ, я не збіраюся. Зацкавана мчацца на стрэл не ў маім характары, і таму «паспрабавала праз забарону».

Упэўнена, што на радзіму я вярнуся вельмі хутка і мой беларускі пашпарт мне вернуць новыя дэмакратычныя ўлады краіны», — завяршае яна.

**Яўген Васількоў**

# Арлоў — начальнікам турмаў: «Адказваць давядзецца»

Пісьменнік скіраваў адкрыты ліст начальнікам беларускіх калоній.

*Начальніку горацкай калоніі*
*начальніку наваполацкай калоніі*
*начальніку івацэвіцкай калоніі*
*начальніку магілёўскай калоніі*
*начальніку бабруйскай калоніі*
*і ўсім начальнікам перапоўненых калоній і турмаў Беларусі*

Грамадзяне начальнікі!

Мне не хочацца думаць, што вы з дзяцінства марылі стаць начальнікамі турмаў. Напэўна, так склаліся абставіны. Магчыма, кагосьці з вас проста прымусілі. Трэба ж некаму рабіць самую чорную працу. Часам я спрабую паставіць сябе на вашае месца. Напрыклад, думаю, што б я адказаў спадарожніку ў цягніку ці самалёце на пытанне, кім працую. Дырэктарам гатэля? Інжынерам чалавечых душ? Ці хапіла б у мяне смеласці прызнацца, што я — начальнік беларускай турмы?

У абывацельскай свядомасці яшчэ не памерла даўно загнаная туды думка, што невінаватага ў турму не пасадзяць. Але каму, як не вам, выдатна вядома, што гэта хлусня. У розныя часы за краты траплялі не толькі абсалютна невінаватыя людзі. Вельмі часта там апыналіся лепшыя. Яны былі вінаватыя ў тым, што хацелі свабоды, святла, праўды не для сябе, а для ўсіх, для цэлай краіны. Потым іх лічылі гонарам нацыі, іхнімі імёнамі называлі вуліцы і плошчы, ім ставілі помнікі.

Вы, пэўна ж, ведаеце, што некалі вязнем мінскага Пішчалаўскага замка — цяперашняй Валадаркі — быў малады Якуб Колас.

А за паўстагоддзя да яго там сядзелі паплечнікі Кастуся Каліноўскага, удзельнікі нацыянальна-вызвольнага паўстання 1863 года. Вы павінны ведаць і пра тых, хто быў зняволены ў сумна, а дакладней, страшна вядомай «амерыканцы» ў 1930-я. Там катавалі і разлучалі з жыццём самых таленавітых, сумленных, адданых Беларусі.

Калісьці мяне запрасілі выступіць перад сябрамі «Маладога Фронту». Мы гаварылі пра літаратуру і гісторыю.

На сцяне быў напісаны дэвіз маіх слухачоў: «Беларусь — гэта святое». Я спрабую ўявіць, які дэвіз у тых, хто праз два дні рэзаў дзверы той кватэры аўтагенам і заганяў Змітра Дашкевіча, Насту Палажанку ды іхніх аднадумцаў у аўтазак.

Я кожны дзень думаю пра тое, што адбываецца ў гэтыя хвіліны са Змітром Дашкевічам, Мікітам Ліхавідам, якога зноў і зноў кідаюць у карцар, з Фёдарам Мірзаянавым і Змітром Драздом, з Міколам Статкевічам і Андрэем Саннікавым... Нядаўна ў прэсе з'явілася паведамленне, што палітвязня Змітра Бандарэнку ў карцары садзілі на ланцуг. Гэтага моцнага, вольналюбівага, мужнага чалавека хацелі прынізіць да ўзроўню сабакі. Але турэмшчыкі прынізілі не яго, а — у чарговы раз — сябе.




Я ўпэўнены, што ўлада, якая прыйдзе на змену цяперашняй, саджаць сваіх апанентаў на ланцуг не будзе. Але адказваць давядзецца. Падумайце пра гэта, грамадзяне начальнікі, сёння, калі ў вашых руках чалавечая годнасць, здароўе, а магчыма, і жыццё тых, чые імёны ведае не толькі Беларусь, але і ўвесь свабодны свет.

**Уладзімір Арлоў, пісьменнік**

# Севярынец будзе адбываць «хімію» на Пружаншчыне

Сустаршыні аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Паўлу Севярынцу, асуджанаму па справе аб масавых беспарадках 19 снежня на тры гады «хіміі», вызначылі месца пакарання.

Раней у Інспекцыі дэпартамента выканання пакаранняў у Віцебску Севярынцу казалі, што ён будзе скіраваны ў адну з папраўчых установ Віцебшчыны. Аднак 9 жніўня палітвязню паведамілі, што месца там яму не знайшлося і адбываць пакаранне Севярынец будзе ў спецкамендатуры № 7 у вёсцы Куплін Пружанскага раёна.

Геаграфічна гэтае месца — адно з самых аддаленых у Беларусі ад роднага горада Севярынца — Віцебска.

Прыбыць у Куплін сустаршыня БХД мусіць 11 жніўня. Ён не выключае, што гэты «фактычна прыгарад Пружанаў» — не канцавы прыпынак. «Могуць патрымаць некалькі гадзін у камендатуры, аформіць паперы і адправіць некуды ў філіял», — кажа Севярынец.

Мінулую сваю высылку, за арганізацыю акцыі пратэсту пасля парламенцкіх выбараў 2004 г. палітык адбываў у вёсцы Малое Сітна Полацкага раёна — на крайняй поўначы Беларусі.

**СМ**

## Сцісла

• **Горкі-суд: Дземідзенка — 17 сутак, Палажанка — 12, Шапуцька — 10.** У Горках і Дрыбіне прайшлі суды над затрыманымі 2 жніўня пад сценамі горацкай калоніі, удзельнікамі акцыі ў падтрымку палітвязня Змітра Дашкевіча. Нявеста палітвязня Наста Палажанка атрымала 12 сутак арышту, Мікалай Дземідзенка — 17 сутак, Ганна Шаруба — 13 сутак, Таццяна Шапуцька, Вячаслаў Барысаў, Максім Сямёнаў, Юлія Міхайлава, Яўген Скрабец —па 10. Усім затрыманым інкрымінуецца незаконнае пікетаванне і непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі. Усяго было затрымана 15 чалавек

• **Ліхавіда змясцілі ў «памяшканне камернага тыпу».** Пасля амаль месяца перапынку прыйшоў ліст дамоў ад Мікіты Ліхавіда. Маці вязня Алена паведаміла, што яе сына змясцілі на 3 месяцы ў ПКТ — гэта так званае «памяшканне камернага тыпу». Туды змяшчаюць тых, хто шмат разоў парушаў турэмныя правілы і, як лічаць турэмшчыкі, не стаў на шлях выпраўлення.

• **Адвакаты палітвязняў прайшлі пераатэстацыю Мінюста.** Адвакаты Дар'я Ліпкіна і Ганна Бахціна, якія абаранялі фігурантаў крымінальнай справы аб масавых беспарадках 19 снежня Мікіту Ліхавіда і Ірыну Халіп адпаведна, прайшлі пераатэстацыю Міністэрства юстыцыі. Напярэдадні тэрытарыяльная атэстацыйная камісія хацела пазбавіць іх ліцэнзіяў, але адвакаткі звярнуліся вышэй —у кваліфікацыйную камісію пры Мінюсце. І там іх апраўдалі. Раней Мінюст пазбавіў ліцэнзій адвакатаў Мінскай гарадской калегіі адвакатаў Паўла Сапелку, Алега Агеева, Таццяну Агееву, Уладзіміра Толсціка і Тамару Гараеву, якія абаранялі фігурантаў справы аб «масавых беспарадках».

**СМ**

# Як нелегальна зарабляюцца дзясяткі тысяч даляраў на міжнародных рэйсах

Расследаванне таямніцаў аўтобусных перавозак Мінск—Вільня.

Чаму большасць пасажыраў міжнародных рэйсаў «Вільня—Мінск» ездзяць без квіткоў, хто на гэтым зарабляе і што пра гэта думаюць у мінскім аўтапарку №2: акалічнасці нелегальнага бізнэсу беларускіх кіроўцаў.




### «А давайце мы вернем вам грошы! Вось і разабраліся»

Каб займець канкрэтныя факты і лічбы, якімі потым можна будзе апераваць у размовах з кіраўніцтвам аўтапарка, я правяла адмысловы эксперымент. Набыўшы ў Вільні ў кіроўцаў квіток, а дакладней месца ў аўтобусе за 30 літаў (блізу 75 тыс. рублёў), які на вакзале каштуе 36 літаў, я села на рэйсавы аўтобус «Коўна—Мінск», які праходзіць праз Вільню. Гэты штодзённы рэйс на 18.05 з'яўляецца апошнім, якім можна патрапіць з Вільні дадому, а таму да яго вечна стаіць чарга. Часам ахвочых нават больш, чым можа змясціць аўтобус — у такіх выпадках хцівыя кіроўцы просяць «лішніх» даехаць да мяжы стоячы, пасля пешкі перасекчы яе (за гэта кіроўцы вам нават даплацяць) і вярнуцца ў аўтобус.

Пяць квіткоў на віленскім аўтавакзале разыходзяцца хутка, бывае, іх не купіць за некалькі дзён да рэйса. А ў аўтобусе ўсім запраўляюць кіроўцы, як мне патлумачылі ў мясцовай касе. Такая сітуацыя існуе ўжо мінімум тры гады, але пасажыры, імкнучыся ашчадзіць капейчыну, у большасці моўчкі пагаджаюцца на правілы кіроўцаў.

У Мінску я дачакалася, пакуль разыдуцца іншыя пасажыры, і падышла да кіроўцаў.

— Як я магу атрымаць квіток? Трэба аднесці яго на працу — з камандзіроўкі вярнуася.

Троху павохкаўшы, што я іх зага-дзя не папярэдзіла — маўляў, узялі б квіток у якога «абілечанага» пасажыра, кіроўцы аднекуль дасталі касавы апарат і доўга ў ім корпаліся. Пасля заявы, што самі не справяцца і трэба спытацца ў калегі, як тое робіцца, яны прапанавалі працэйшы варыянт: «А давай мы вернем табе грошы! Скажаш босу, што ехала на папутцы». Я была не супраць.

### «Як мы пракантралюем? У нас жа візаў няма!»

Начальнік аддзела перавозак аўтапарка № 2, які займаецца міжнароднымі рэйсамі, Інэса Палюховіч расказала, што кіроўцы абілечваюць пасажыраў з дапамогай касавых апаратаў. Ім забаронена браць аплату за праезд у літах, а таму яны могуць выдаваць квіткі, пачынаючы з беларускай тэрыторыі — то бок з Ашмянаў. На тэрыторыі Літвы кантраляваць продаж кіроўцамі квіткоў павінны літоўскія кантралёры.

Пасля размовы з Інэсай Палюховіч «абураная пасажырка» звярнулася да намесніка дырэктара па перавозках аўтапарка № 2 Віктара Палаўчэні, які пацвердзіў інфармацыю Інэсы Сямёнаўны і пры мне спраўдзіў у калегаў, што ліст з адпаведнымі патрабаваннямі быў накіраваны літоўскаму боку. Ён прапанаваў дадатковы варыянт вырашэння праблемы: «Напішыце заяву, я проста звольню гэтых кіроўцаў». І запэўніў, што мае больш за 700 кіроўцаў, а таму звольніць 8 чалавек (4 пары) і паставіць на іх месца іншых — не праблема. Я выказала сумнеў, што на падставе адной маёй заявы можна звольніць людзей, і ўдакладніла ў сп. Палаўчэні, якія гарантыі таго, што новыя кіроўцы не будуць карыстацца тым самым механізмам ці не прыдумаюць нейкія новыя спосабы махінацый. Гарантый няма, сказаў ён — маўляў, скарга ў Літву напісана, але ж немагчыма пракантраляваць, як літоўцы вырашаць сітуацыю. А кожны раз свайго кантралёра садзіць не будзеш. Самім правяраць таксама складана — візаў жа няма...

Чыноўнік паўтарыў, што не ведаў пра гэты бізнэс, бо туды не ездзіць. Ніякіх падазрэнняў гэты рэйс у яго не выклікаў — ён лічыцца прыбытковым, а бухгалтарка не абавязана параўноўваць колькасць пасажыраў штодня!

Раскрыць панятак «прыбытковага рэйса» Віктар Віктаравіч адмовіўся, спаслаўшыся на камерцыйную тайну. Больш за тое, пачаў запэўніваць мяне, што прыбытак з рэйса аніяк не ўплывае на кошт квітка, які нядаўна, дарэчы, вырас удвая. Магчыма, што непасрэдна кошту квітка гэта не тычыцца. Але цяжка паверыць, што дадатковыя грошы не прыносяць карысці як аўтапарку, так і пасажырам у выглядзе новых камфортных аўтобусаў, ільготаў на праезд і г.д.

Дарэчы, Інэса Палюховіч спачатку пагадзілася параўнаць колькасць пасажыраў, якія, паводле дакументаў, ехалі адным са мною аўтобусам, з лічбаю, зафіксаванай мною. Аднак пазней адмовілася. Ёсць што хаваць?..

### Як тысячы даляраў патрапляюць у кішэні кіроўцаў?

Такім чынам, сітуацыя схематычна праясняецца:

**1.** Аўтапарк задавальняецца мінімумам неабходнага прыбытку і не звяртае аніякай увагі на самадзейнасць кіроўцаў, ускладае адказнасць за сумнеўныя дзеянні кіроўцаў на літоўскіх калегаў.

**2.** Літоўскаму боку абыякава, як і па якім коште прадаюць квіткі кіроўцы, бо рэйс — беларускі і прыбытак ідзе ў кішэню беларусам. Я двойчы праверыла, ці пачалі літоўцы пасля скаргаў беларусаў ставіць кантралёраў на рэйсы — не, не пачалі. Незразумела, праўда, чаму беларускія кантралёры не могуць правяраць наяўнасць квіткоў падчас прыпынку ў Ашмянах.

**3.** Кіроўцы, карыстаючыся бяздзейнасцю і абыякавасцю абодвух бакоў, разгарнулі прыбытковы бізнэс, у якім зацікаўленыя, магчыма, не толькі яны.

**4.** Большасць пасажыраў з-за эканоміі ў 6 літаў маўчыць, застаючыся без папяровага квітка, — а значыцца, і без прававой абароны ў надзвычайным выпадку.

Просты падлік: пасажыры, што даехалі без квітка да Мінска, прынеслі кіроўцам нелегальны прыбытак у 480 літаў (амаль $200). А рэйсы штодзённыя, і ў большасці выпадкаў аўтобусы выходзяць з Вільні перапоўненымі!

Калі браць за прыклад аўтобус, у якім ехала я, дык за год выходзіць мінімум 175 200 літаў (або $71 712). За гэтую суму можна набыць троху патрыманы аўтобус Mercedes на 51 месца, а за 3 гады можна было б папоўніць аўтапарк трыма такімі аўтобусамі! І гэта толькі адзін прахадны рэйс, а іх на дзень з паўдзясятка — магчыма, і там «пракручваюцца» падобныя схемы?..

Дарэчы, у адміністрацыі аўтапарка № 2 мне паведамілі, што пуцявы дакумент аўтобуса праходзіць праверку на мяжы, і не было выпадкаў, каб колькасць пасажыраў, занатаваная ў дакументах кіроўцы, не супадала з колькасцю пасажыраў, якую фіксуюць памежнікі. Тэарэтычна памежнікі павінны заходзіць у аўтобус і самастойна пералічваць колькасць пасажыраў, пацвярджаючы дадзеныя пячаткаю. Ці ўключаны памежнікі ў «схему» кіроўцаў, і калі так, дык якім чынам? Тут пачынаюцца пытанні, на якія адназначна журналісту цяжка атрымаць адказы.

P. S. Вынікі гэтага расследвання перададзеныя ў адпаведныя адказныя структуры. Чакаем працяг гісторыі.

**Таццяна Шапуцька, tut.by**

# Серада без воплескаў

Арганізатары маўклівых акцый пратэсту ўзялі перапынак да 14 верасня.



Яны не рабілі цэнтралізаванага закліку выходзіць на вуліцу ў сераду 3 жніўня. Пакуль арганізатары не тлумачаць прычынаў такога рашэння.

Тым не менш, журналісты і спецслужбы да акцыі ўсё ж падрыхтаваліся. Так, у Брэсце каля рынку «Цэнтральны» журналісты заўважылі супрацоўнікаў міліцыі ў форме і ў цывільным. У цэнтры Баранавічаў у той вечар сабраліся адно журналісты і міліцыянты. Людзі ў цывільным былі заўважаныя на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску. А ў Вілейцы міліцыянты па звычцы затрымалі апазіцыянераў.

Нагадаем, што Савет Міністраў падрыхтаваў праект змяненняў і дапаўненняў у Закон «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь», які, калі будзе прыняты ў такім выглядзе, значна ўскладніць жыццё ўдзельнікам маўклівых акцый. Згодна з праектам, міліцыя набудзе паўнамоцтвы затрымліваць удзельнікаў акцый нават за тое, што яны будуць моўчкі збірацца ў цэнтры гарадоў.

**СП**

# Лукашэнкаўцы зноў узяліся за Лябедзьку

Адноўлена расследаванне па справе з Плошчы лідара Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

Начальнік следчага ўпраўлення папярэдняга расследавання Мінгарвыканкама Г. Казакевіч праінфармаваў палітыка, што «папярэдняе расследаванне па крымінальнай справе N10011110362 адноўленае 1 жніўня 2011». Палітыку таксама патлумачылі, што его заява наконт нявернутых пашпарта і асабістых рэчаў пераадрасаваная ў КДБ.

Анатоль Лябедзька мяркуе, што ўлады такім чынам пачалі рыхтавацца да восені: «На жаль, з адказу Казакевіча незразумелыя матывы і прычыны аднаўлення расследавання. Гэта дае падставы меркаваць, што падаплёка палітычная, а не прававая. Сілавыя структуры рыхтуюцца да восені і даюць зразумець, што гатовыя заводзіць у адкрытую справу новых фігурантаў. Для мяне гэта азначае, што я буду заставацца ў статуце палітычнага закладніка нявызначаны час».

Нагадаем, што ў ноч на 20 снежня 2010 г. Анатоль Лябедзька, давераная асоба кандыдата ў прэзідэнты ад АГП Яраслава Раманчука, быў арыштаваны ў сябе ў кватэры. У той жа дзень у СІЗА КДБ ён абвясціў галадоўку. Палітыка абвінавацілі паводле арт. 293 КК (масавыя беспарадкі). Увечары 6 красавіка яго вызвалілі пад падпіску аб нявыездзе. Абвінавачванне з Лябедзькі дагэтуль не знялі.

**Сямён Печанко**





# Лукашэнка прабачыў экс-генералу Хацько

**Супраць яго спынілі крымінальную справу і вярнулі арыштаваную маёмасць.**

Крымінальная справа ў дачыненні да экс-кіраўніка УУС аблвыканкама Генадзя Хацько спынена. Пра гэта на прэс-канферэнцыі паведаміў пракурор Гродзенскай вобласці Віктар Марозаў. Рашэнне аб вызваленні ад крымінальнай адказнасці ў сувязі з пагашэннем шкоды прыняў асабіста Лукашэнка. Экс-генерал ужо выплаціў каля 30 мільёнаў рублёў. Яму вярнулі арыштаваную маёмасць.

Нагадаем, што 26 студзеня 2010 г. супраць былога кіраўніка УУС Гродзенскага аблвыканкама была заведзеная крымінальная справа па ч.3 арт.424 КК «Злоўжыванне ўладай ці службовымі паўнамоцтвамі». Генадзя Хацько вінавацілі ў незаконным выкарыстанні рэсурсаў абласнога УУС пры будаўніцтве катэджа. 13 лютага таго ж года жонка генерала заявіла, што яе муж знік. Хацько абвясцілі ў вышук.

4 лістапада 2010 г. былі міліцэйскі генерал самастойна з'явіўся ў кабінет да пракурора вобласці Віктара Марозава, каб «здацца».

**СП**

# У Віцебску ўзбунтаваліся трыццаць прыватных ЖЭСаў

**Кампенсацыі на камунальныя выдаткі з бюджэту скараціліся ў чатыры разы.**

Старшыні трыццаці віцебскіх таварыстваў накіравалі калектыўны зварот міністру ЖКГ, старшыням абл- і гарвыканкамаў, кіраўніцтву Дзяржкантролю і фінаддзела Віцебскага гарвыканкама. Яны просяць разабрацца ў сітуацыі, якая склалася з атрыманнем бюджэтных асігнаванняў за першае паўгоддзе і прыняць удзел у вырашэнні пытання па пакрыццю страт за жыллёва-камунальныя паслугі на 2011 г. «Я магла б сабраць і болей подпісаў, але ў нас занадта мала часу — напярэдадні ацяпляльны сезон, — патлумачыла «НН» адна з ініцыятараў звароту Вера Котава, старшыня віцебскага таварыства ўласнікаў «Юнона». — Мы даведзеныя да адчаю — фактычна да канца года нашы супрацоўнікі павінны працаваць бясплатна».

Па яе словах, гарадскі фінаддзел у чатыры разы скараціў памер кампенсацыі на камунальныя выдаткі.

Паводле закона, дзяржава часткова кампенсуе выдаткі на тэхнічнае абслугоўванне тэрыторыі жылых дамоў, у тым ліку і тых, што не абслугоўваюцца арганізацыямі жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Да такіх адносяцца і таварыствы ўласнікаў. Летась памер кампенсацыі складаў 5550 рублёў на 1 кв.м плошчы дома, што ацяпляецца. Гэтыя нарматывы даводзяцца кіраўнікам таварыстваў перад пачаткам фінансавага года. Сёлета віцебскія таварыствы даведаліся пра памер кампенсацыі на 2011 год толькі ў сярэдзіне ліпеня. Паводле слоў Веры Котавай, таварыства атрымала з фінаддзела ліст, у якім гаворыцца, што сёлета кампенсацыя складзе 1000 рублёў. Яна кажа, што калі гэтая лічба будзе канчаткова зацверджаная, яе арганізацыя, як і астатнія 120 віцебскіх таварыстваў, паўстане перад неабходнасцю звальнення персаналу. «У нас тут цэлы штат працуе — ад бухгалтара да дворніка». Не ведаючы памераў нарматыву, таварыства разлічвала выдаткі згодна са старым тарыфам, улічыўшы рост інфляцыі. Цяпер няясна, хто кампенсуе гэтую розніцу. А таксама, як з такімі цэнамі і кампенсацыяй падтрымліваць дом і прылеглую тэрыторыю ў парадку, як таго патрабуе жыллёвы кодэкс.

Старшыня «Юноны» кажа, што ў доме таварыства жывуць далёка не багатыя людзі. «У нас няма кансьержаў з ахоўнікамі, агароджаных парковак і відэакамер. Тут жывуць малазабяспечаныя сем'і, якія набывалі кватэры па льготных крэдытах», — расказвае яна. Калі фінаддзел не перагледзіць памер кампенсацыі, камунальныя выдаткі аўтаматычна лягуць на плечы жыхароў. «Як патлумачыць, чаму яны мусяць плаціць гэтыя грошы, калі ў суседнім доме, які абслугоўвае ЖЭС, ніхто нічога не плаціць?» — пытае Вера Котава і апелюе да 22-га артыкула Канстытуцыі, згодна з якім усе роўныя перад законам, маюць аднолькавыя правы на абарону сваіх інтарэсаў. Яна прапануе параўнаць не толькі з суседнімі дамамі, але і з іншымі гарадамі. «Па нашых звестках, у Віцебскім раёне памер кампенсацыі складае 7200 рублёў, у Мінску 8800, а ў Пінску дзейнічае дыферэнцыйны падыход — памер кампенсацыі залежыць ад узросту дома: чым ён старэйшы, тым больш нарматыў».

Старшыню таварыства абурае стаўленне да іх праблемы з боку гарадскіх уладаў. «Як якую дэлегацыю прывезці, дык адразу да нас, бо тут заўсёды прыбрана, акуратна, прыгожа. А як пачалі высвятляць, чаму нам скарацілі выплаты, то адразу прыгразілі наслаць на нас праверкі».


11) Председатель ТС „Вега г. Витебск“
12) Председатель ТС „Рубин г. Витебск“
13) Председатель ТС „Восток-1“
14) Председатель ТС „Венера г. Витебск“
15) Председатель ТС „Александрит“
16) Председатель ТС „Чкалова 41“
17) Председатель ТС „Айва[illegible]“
18) Председатель ЖСПК „Конверсия-2“
19) Председатель ТС „Ма[illegible]“

Начальнік фінансавага ўпраўлення Віцебскага гарвыканкама Яўгенія Бардушка паведаміла карэспандэнту «НН», што ліст ад старшыняў таварыстваў яны атрымалі і ўжо падрыхтавалі адказ. Яна патлумачыла, што нарматыў па кампенсацыі выдаткаў на тэхабслугоўванне фармуецца згодна заканадаўства, палажэнняў Жыллёвага кодэкса і ў адпаведнасці з магчымасцямі бюджэту. «У гэтым годзе ён складзе 1000 рублёў», — падкрэсліла чыноўніца. Па яе словах, гарвыканкам цалкам кампенсуе выдаткі на абслугоўванне ліфтаў. «Вы зразумейце, што жыллёвы фонд таварыстваў у большасці выпадкаў новы, а вось у падпарадкаванні камунальнай гаспадаркі трапляюцца дамы, якім за 40 год. Адпаведна, выдаткі на абслугоўванне новых дамоў і старых будуць розныя». Яўгенія Іванаўна падкрэсліла таксама, што ў камунальных арганізацыях доля заробкаў у фондах складае да 52%, а ў таварыствах да 68%.

Таварыства ўласнікаў — некамерцыйная арганізацыя, якая аб'ядноўвае ўласнікаў памяшканняў у шматкватэрным жылым доме. Ствараецца з мэтай сумеснага кіравання жылым комплексам, забеспячэння яго эксплуатацыі. Перавага падобных арганізацый у тым, што ўдзельнікі таварystваў самастойна фармуюць супольны бюджэт на рамонт дома і ўтрыманне прылеглай тэрыторыі.

**Сямён Печанко**

# У Мінску ўзяліся-такі за блох



**Супрацоўніца санстанцыі рыхтуецца да «аперацыі».**

5 жніўня па абедзе ў падвале дома №70 на вуліцы Сердзіча ў Мінску пачалі труціць блох. Жыхары дома скардзіліся ў «НН» у пачатку мінулага тыдня. Яны расказалі, што паразіты ў вялікай колькасці з'явіліся яшчэ тыдзень таму, але звароты ў адпаведныя інстанцыі плёну не далі. На наступны дзень пасля публікацыі артыкула ў «НН» (у тым ліку і на сайце NN.BY) пра былышную навалу ў падвал дома завіталі супрацоўнікі ЖЭСа. Але, па словах жыхароў, «вымушаныя былі адступіць». Тым часам у «НН» пачалі звяртацца жыхары іншых раёнаў сталіцы, а таксама з рэгіёнаў — з Браслава, Мазыра, Мар'інай Горкі, Івацэвічаў... Яны паведамлялі пра тую самую бяду. Напрыклад, Марыя Аляксандраўна з вуліцы Цнянскай у Мінску паведаміла нам, што з-за блох яе дачка і дзіцём вымушаныя былі з'ехаць з кватэры. Па яе словах, насякомыя апанавалі кватэру настолькі, што ў ёй проста немагчыма нармальна жыць.

Навалы скочак у Мінску здараюцца не першы год. Масавае з'яўленне паразітаў найчасцей здараецца ў перыяд спёкі, што спалучаецца з высокай вільготнасцю.

**СП**

# Пракуратура аналізуе відэа збіцця доктара даішнікамі ў Ваўкавыску

Падрабязнасці інцыдэнту ў Ваўкавыскай раённай бальніцы вывучае пракуратура. У прыватнасці, пракуратура прааналізавала відэа, знятае супрацоўнікам ДАІ ў прыёмным пакоі ў часе правядзення медагляду кіроўцы, затрыманага па падазрэнні ў кіраванні ў нецвярозым стане. Паводле яго, сварка паміж аўтаінспектарамі і дзяжурным доктарам працягвалася паўгадзіны. Пачалося з таго, што доктар, незадаволены тым, што працэдуру агляду здымаюць на тэлефон без яго дазволу, зрабіў заўвагу. Супрацоўнікі ДАІ не змоўчалі. Скончылася тым, што доктар вырашыў правесці агляд у іншым пакоі. Далей, па яго версіі, а таксама па словах яго калег, міліцыянты накінуліся на медыка, закавалі ў кайданкі і пачалі збіваць. Па версіі даішнікаў, доктар імкнуўся правесці агляд у іншым памяшканні, каб, магчыма, дапамагчы кіроўцу пазбегнуць адказнасці. Пры гэтым ён нібыта пабіў аднаго з іх.

**СП**

# Вілейскае вадасховішча апанавала сіняя пена ядавітага адцення

**Цэлыя касякі дохлай рыбы аблепленыя тым самым рэчывам. Між тым, ваду з вадасховішча п’е палова Мінска.**

Жыхары Вілейкі даслалі ў Рэдакцыю «НН» некалькі фотаздымкаў з берага Вілейскага вадасховішча. Тое, што можна ўбачыць на здымках, нагадвае наступствы тэхнагеннай катастрофы. На вадзе — цвёрдая блакітная пена ядавітага адцення. Цэлыя касякі дохлай рыбы аблепленыя тым самым рэчывам. Сіні колер шуму не падобны да прыроднага.

Знаходзіцца гэтае месца каля паста міліцыі, акурат непадалёк ад канцавога прыпынку гарадскога аўтобуса. «Гэта сапраўды страшна, — піша чытач. — Такое адчуванне, што ў вадасховішча вылілі цыстэрну меднага купарвасу».

Што яшчэ хвалюе ў гэтай сітуацыі — Вілейскае вадасховішча выкарыстоўваецца як крыніца пітной вады для Мінска.

На той момант, калі «НН» звязалася з кіраўніцтвам раёна, ніхто яшчэ не ведаў, што магло здарыцца на вадасховішчы. Адзінае, што версію з купарвасам у выканкаме не пацвердзілі — няма адкуль купарвасу там узяцца.

Кіраўніцтва аддзялення грамадзянскай абароны раёна выказала меркаванне, што сіняе рэчыва на беразе вадасховішча цалкам можа быць прыроднага паходжання: калі высыхаюць балоты, то іх дно выглядае менавіта так і мае яркі блакітны колер. Адміністрацыя раёна будзе высвятляць, што адбылося на ўзбярэжжы.

«Насамрэч блакітны колер можа мець прыроднае паходжанне, — кажа вядомы публіцыст і актывіст экалагічнага руху Валер Дранчук. — На маёй роднай рэчцы такое час ад часу здаралася, тлумачылася тым, што там паблізу знаходзілася руда — тады вада і бераг перыядычна набывалі сіні колер. Асабліва калі ў міжсезонне змяншаўся ўзровень вады».





Вілейскае вадасховішча было створана штучна, і адмыслова для захавання пітной вады для Мінска, таму за яго станам сочаць пільна. Афіцыйны каментар ад кіраўніцтва Вілейкі павінен з’явіцца ў хуткім часе.

«Больш за ўсё гэта падобна на тое, што вадасховішча «квітнее», — кажа кандыдат хімічных навук Канстанцін Лапко. — Напрыклад, возера ў Радашковічах падчас «квітнення» мае жоўта-карычневы колер, які таксама нагадвае наступствы тэхнагеннай катастрофы. Мае сябры з Вілейкі кажуць, што гэта менавіта прыродная з’ява. Хімічнага паху, які б мусіў з’явіцца, калі б праблема была ў забруджванні, на беразе няма».

— Такую пену могуць утвараць сіне-зялёныя водарасці — найпрасцейшыя формы жывых арганізмаў, — кажа біёлаг Алена Малюшкова. —Мяркуючы па фота, гэта менавіта яны. Тут варта прыгадаць нядаўнюю сітуацыю ў Жоўтым моры, з той розніцай, што там водарасці былі зялёныя. У прынцыпе, у хуткім часе на іх можа ўзнікнуць лішайнік, які часцяком стварае менавіта вось такі эфект. Адзінае, што колер для водарасцяў незвычайны, найчасцей яны маюць больш адценняў зялёнага. Магчыма, тут справа ў спалучэнні водарасцяў з хіміяй.

**Юрась Ускоў**

## Астраномы зафіксавалі палярнае ззянне над Беларуссю

**У ноч на 6 жніўня беларусы маглі назіраць надзвычай рэдкую з’яву.**

Нядаўняя магутная ўспышка, што адбылася на Сонцы, прывяла да ўзнікнення магутнага патоку зараджаных часцінак, якія праз некаторы час даляцелі да Зямлі і сутыкнуліся з верхнімі слаямі атмасферы Зямлі — іанасферай. Пры гэтым атамы нашай атмасферы разбураліся да іонаў і аб’ядноўваліся ізноў (гэты працэс называецца рэкамбінацыяй), выпраменьваючы святло розных колераў.

Паўночнае ззянне — досыць частая з’ява для жыхароў паўночных шыротаў, але, каб убачыць такое ў Беларусі, трэба сапраўды моцная магнітная бура, якая ідзе ўслед за ўспышкамі на Сонцы.

Здараючца такія абставіны раз у некалькі год, бачыць начныя сполахі на паўночным схіле неба — сапраўды рэдкая ўдача.

На жаль, ззянне, якое можна было ўбачыць у нас, было не вельмі яркім, таму ў горадзе з ліхтарамі і смогам былі бачныя толькі асобныя яго элементы. Затое жыхары сельскай мясцовасці і пасажыры аўтамабіляў, што падарожнічалі ўначы, маглі атрымаць асалоду ад каляровай завесы, што павольна гайдалася на поўначы.

**Віктар Малышчыц, астраном, супрацоўнік Абсерваторыі БДУ**






## Шоп-тур «Пакуль у Беларусі крызіс»

**Расейцаў запрашаюць затаварыцца ў беларускіх крамах.**

Спрытныя масквічы вырашылі скарыстацца з крызісу ў Беларусі. «Пакуль у Беларусі крызіс — паспей скупіць усё па вельмі нізкіх цэнах», — гаворыцца ў рэкламе кан’юнктурных тураў у нашу краіну. Масквічоў возяць у фірмовыя крамы беларускіх вытворцаў — «Мілавіцу», «Купалінку», «Світанак», «Алесю», «Белвест», «Марка», «Элему», «Беліта-Вітэкс». Запланаванае таксама наведванне гандлёвых цэнтраў і прадуктовых складаў.

Набег на беларускія крамы абыходзіцца масквічам усяго ў 90 даляраў. Групам абяцаюць зніжкі.

А ў Гомель ды Добруш расейцы едуць па школьныя тавары. Скупляюць у вялікай колькасці сшыткі, канцылярскія тавары, школьную форму. Ізноў жа — карыстаюцца розніцай у цэнах, адзначае дзяржаўны тэлеканал «Гомель».

**СП**

## Пачым зняць кватэру ў Мінску?

Пакоі ў інтэрнатах атрымаюць не ўсе першакурснікі. Якімі коштамі арэнды кватэр сустрэне Мінск студэнтаў?

«На сёння «буму» попыту на кватэры яшчэ не адчуваецца. Кватэры «эканамкласа», г.зн. самыя танныя адна- ці двухпакаёўкі, каштуюць 170–200 даляраў.

Таннейшых варыянтаў цяпер практычна няма, нават у аддаленых раёнах, кшталту Чыжоўкі. Магчыма, перад самым «сезонам» кошты ўздымуцца яшчэ на 10–15 даляраў», — пракаментавала сітуацыю напярэдадні пачатку навучальнага года менеджар агенцтва «Твая сталіца» Валянціна Сенчыхіна.

**Зміцер Хведарук**

# Раман Віктара Марціновіча выйдзе па-англійску ў ЗША

Раман беларускага журналіста і пісьменніка Віктара Марціновіча «Параноя» ў перакладзе на англійскую мову выйдзе ў канцы 2012 года ў амерыканскім выдавецтве Northwestern University Press.

Пра тое, што раман трапіў у лік адзінаццаці замежных кніг, пераклад якіх праспансаруе Амерыканскі ПЭН-клуб, стала вядома з заявы на сайце арганізацыі. Усяго на разгляд дарадчай групы было прадстаўлена больш за 130 кніг з розных краінаў.

Перакладам «Параноі» зоймецца Дыяна Немец Ігнашава, спецыяліст па расійскай літаратуры, доктар філасофіі і выкладчык Чыкагскага ўніверсітэта.

У інтэрв'ю часопісу перакладной літаратуры «ПрайдзіСвет» перакладчыца сцвярджае: цікавасць да рамана абумоўленая як эстэтыкай, так і палітыкай: «У плане выкшталцонасці Віктар Марціновіч трапіў у выбітную кампанію аўтараў, якія выйшлі ў перакладзе пад грыфам NUP: ад Генрыха Бёля да Марыны Цвятаевай. На той час, калі мы з Майкам (Майк Левайн, рэдактар выдавецтва Паўночна-Заходняга ўніверсітэта (Northwestern University Press), які парэкамендаваў раман радзе выдавецтва — Рэд.) абмяркоўвалі гэты праект, Майк меў толькі вельмі прыблізны аматарскі пераклад першых дваццаці-трыццаці старонак рамана. Таму я дапускаю, што першапачатковая цікавасць выдавецтва была ўсё-такі выкліканая палітыкай. Бо ў рэцэнзіі на «Параною», «У найцямнейшай Беларусі», якая выйшла ва ўплывовым штодзённіку New York Review of Books Цімаці Снайдэр надае даволі шмат увагі палітычным элементам самога рамана і падзеям, якія адбыліся пасля яго з'яўлення ў друкаваным выглядзе ў Мінску. Аднак вырашальным фактарам сталі ўсё ж літаратурныя вартасці твора, у чым выдавецтва змагло пераканацца па другім, ужо прафесійным перакладзе асобных яго частак».

— Як Вы лічыце, чым можа раман беларуса Віктара Марціновіча прыцягнуць амерыканскага чытача?

— У нашую камп'ютарызаваную эпоху цяжка здагадацца, што менавіта зможа ўздзейнічаць на чытача. З пункта гледжання перакладчыка на карысць Марціновіча шмат пазітыўных фактаў: жывая мова, шмат постмадэрнісцкай гульні — моўнай і агульнакультурнай, «кіношныя» візуальныя вобразы, востры сюжэт з класічнай і агульнадаступнай расстаноўкай дабра і зла. Безумоўна, дасведчаны чытач адчуе і ўплыў на аўтара расійскіх класікаў, асабліва Гогаля, Дастаеўскага, Чэхава і Булгакава. Як гэта ні сумна, але пагаршэнне палітычнай сітуацыі ў Беларусі зможа толькі пазітыўна паўплываць на ўспрыняцце рамана англамоўнымі чытачамі.

**Паводле prajdzisvet.org**



**Раман «Параноя»** распавядае аб краіне, падобнай да Беларусі, і горадзе, падобным да Мінска. Ёсць там і пра дыктатуру, і пра чалавечыя адносіны. Галоўны герой сустракае казачную прынцэсу з купай грошай, аўто і кватэрамі, якая выяўляецца палюбоўніцай кіраўніка дзяржавы. Усе спатканні каханкаў дэталёва занатоўваюцца праслухоўкай Міністэрства бяспекі. Шмат хто знайшоў у кнізе Марціновіча падабенства з оруэлаўскім «1984». Раман, выдадзены ў Расіі, амаль імгненна быў забаронены да продажу ў Беларусі. Дарэчы, першы пераклад урыўкаў з гэтага расійскамоўнага рамана быў надрукаваны па-беларуску. Выбраныя месцы былі апублікаваныя ў часопісе ARCHE ў перакладзе Уладзя Лянкевіча.

## Кнігі і дыскі падаражэлі ўдвая

**Кнігагандляры з кірмашоў па цэнах дагналі і перагналі афіцыйныя кнігарні.**

Спартыўны комплекс «Дынама», дзе па суботах гандлююць кнігамі, цяпер выглядае пустым. Раней аб 11-й да прылаўкаў было не прабіцца, у праходах не размінуцца. Цяпер выбіваць сабе месца не даводзіцца, а частка прылаўкаў і зусім знікла.

Як толькі падаражанні пачаліся, людзі ездзіць па кнігі перасталі, кажуць прадаўцы. Аднак па выручцы выходзіць столькі ж, колькі да крызісу.

Выходзіць столькі ж, бо кнігі, якія раней каштавалі 19 тысяч рублёў, цяпер прадаюцца за 45 тысяч. Сярэдняя цана кнігі ў цвёрдым пераплёце — 65 тысяч рублёў.

Новых выданняў стала значна менш. «Вязём тое, што могуць купіць — трох-чатырох аўтараў з кожнага выдавецтва», — тлумачаць прадаўцы. І тых далёка не ўсе купляюць — напрыклад, апошні раман Людмілы Уліцкай, які ў Расіі карыстаецца шалёным попытам, спакойна ляжыць на прылаўку ў Мінску — не кожны гатовы аддаць за новую кнігу 90 тысяч рублёў.

Тое самае адбываецца і з часопісамі — былі па 8 тысяч, сталі па 18. Кніжны бізнэс апынуўся ў дзіўнай сітуацыі — прадпрымальнікі па коштах дагналі афіцыйныя кнігарні, дзе «дакрызісныя» кнігі прадаюцца па старых цэнах.

Падобная сітуацыя складваецца і ў гандляроў аўдыё- і відэапрадукцыяй. Па іх словах, страты не цярпяць толькі тыя, хто на пірацкі DVD-дыск запісвае па пяць-шэсць фільмаў і прадае па тры тысячы без вокладкі і па пяць — з вокладкай. Аднак і прыбытку такі «бізнэс» амаль не прыносіць.

Новыя запісы, што раней каштавалі 10 тысяч, цяпер прадаюцца па 18 тысяч. Падае і попыт: пасля падаражання людзі пачалі актыўней усё пампаваць з інтэрнэту.

**Юрась Ускоў**

## Абрынулася вежа «чорнага замка Альшанскага»

1 жніўня часткова разбурылася найбольшая вежа замка XVI ст. у Камянцы-Падольскім ва Украіне. Адбылося гэта пасля моцных дажджоў. Апроч залевы, прычынай абрынання сцяны называюць і памылку рэстаўратараў: падчас аднаўлення вежы ў мур былі ўмантаваныя водаадводы. Вада прасочвалася ў тоўшчу сцяны, разбураючы яе. На адбудову фартэцыі спатрэбяцца тры месяцы і 1 млн грывень (каля $125 тыс.), адзначаюць спецыялісты. Замак — турыстычны дыямент Украіны. У яго навакольлях было знята некалькі дзясяткаў гістарычных фільмаў. Сярод іх — «Чорны замак Альшанскі» паводле рамана Уладзіміра Караткевіча.



**СМ**



PHOTO.BYMEDIA.NET

**13 ліпеня 2006 г. пажарам была знішчана частка алтара гродзенскага катэдральнага касцёла імя св. Францішка Ксаверыя. Той алтарны ансамбль стварыў у XVIII стагоддзі разьбяр Ёхан Шміт. Агонь знішчыў чатыры з дванаццаці драўляных фігур апосталаў. Аднаўленне адбывалася сумеснымі намаганнямі беларускага і польскага бакоў. Адноўлены алтар набыў выгляд пачатку XVIII ст. Калі 31 ліпеня 1736 г. падпісвалася ўмова паміж айцамі езуітамі і Ёханам Шмітам, было адзначана, што пры будаўніцтве алтара яго неабходна падрыхтаваць да пазалоты. Пазалацілі ж яго толькі праз тры стагоддзі. 5 жніўня ў катэдры адбылося ўрачыстае адкрыццё адноўленай каштоўнасці.**

**IN MEMORIAM**

## Яраслаў Звяруга

(4.09.1928 — 4.08.2011)



4 жніўня 2011 г. адышоў у іншы свет вядомы беларускі археолаг Яраслаў Звяруга. Яго даследаванні былі прысвечаны гісторыі рэгіёна Верхняга Панямоння ў раннім Сярэднявеччы. Ён адкрыў і ўвёў у навуковы ўжытак больш за 30 помнікаў археалогіі, як даследчык гэтага рэгіёна непазбежна сутыкаўся з праблемаю балта-славянскіх кантактаў. Пішучы пра IX—XIII стст. Звяруга зазначаў, што «славяне сутыкнуліся ў Панямонні не з бязлюднымі прасторамі, хоць былі і такія (напрыклад, Гарадзенская і Налібоцкая пушчы), а густа населенымі землямі з даўнімі земляробчымі і жывёлагадоўчымі традыцыямі».

Як і ў любога дасведчанага археолага, у Яраслава Звяругі былі незвычайныя знаходкі і свае забаўныя гісторыі. У Ваўкавыску, які ўвогуле быў фенаменальным цэнтрам кастарэзнай вытворчасці, на Шведскай гары археолаг упершыню ў Беларусі знайшоў косткі паўліна.

Яраслаў Звяруга паходзіў з Заходняй Беларусі: ён нарадзіўся ў Мядзелі. У 1950—1970 гадах у мінскім акадэмічным асяроддзі ўраджэнцам Заходняй Беларусі прыходзілася дэманстраваць дадатковую лаяльнасць, каб дасягнуць нейкіх поспехаў у прафесійнай кар'еры. Да таго ж, беларуская карпарацыя археолагаў — традыцыйна вельмі канкурэнцыйны асяродак, які поўніўся ўзаемнымі падазрэннямі. На гэтым фоне Яраслаў Звяруга яўна вылучаўся сваёй стрыманасцю і прыветнасцю.

Са смерцю Яраслава Звяругі мы згубілі дасведчанага прафесіянала і чалавека, да разважлівасці якога можна было апеляваць у часы напружанасці.

**Алег Дзярновіч**

## Сцісла

• **«Белсат» выйшаў на другі спадарожнік.** Ад 1 жніўня «Белсат», першы незалежны спадарожнікавы тэлеканал у Беларусі, аднавіў трансляцыю на другім спадарожніку «Астра 1KR». Гэта павялічвае геаграфічны абсяг тэлеканала і памер патэнцыйнай аўдыторыі. Тэхнічныя параметры «Astra 1KR»: арбітальная пазіцыя — 19,2°E; нумар транспондара — 59; палярызацыя — H; частата — 10862 MHz; мадуляцыя — DVB-S; Symbol rate — 22000; FEC — 7/8.

• **Янку Запрудніку — 85.** 9 жніўня споўнілася 85 гадоў вядомаму дзеячу беларускай дыяспары ў Нью-Ёрку, доктару гісторыі, палітолагу, літаратару, публіцысту Янку Запрудніку. Ён ёсць адным з тых рухавікоў, на якіх сёння трымацца беларускае жыццё ў Амерыцы. Ён жыве беларускімі справамі, актыўна рэагуе на ўсё, што адбываецца на Радзіме, дапамагае беларусам і Беларусі.

• **У Маскве памёр славуты піяніст Мікалай Пятроў.** 68-гадовы Пятроў быў шпіталізаваны з інсультам падчас гастроляў у Беларусі ў маі 2011 года, куды прыехаў на адкрыццё музычнага форуму «Магія раяля» ў Белдзяржфілармоніі. Некаторы час ён лячыўся ў Мінску, аднак пазней быў перавезены ў Маскву.

**СМ**

# Аляксандр Надсан:

## Скарынаўская бібліятэка павінна зрабіцца беларускім аналагам Гётэ-Інстытута

Беларуская бібліятэка імя Францішка Скарыны — кавалачак Беларусі, якіх мала ў самой Беларусі. У самы мой першы прыезд у Лондан мне хацелася пабачыць гэтае месца куды больш, чым турыстычныя Таўэр ці Вестмінстэрскае абацтва.

Бібліятэка размяшчаецца ў ціхім прадмесці на поўначы Лондана. Пасярод утульных катэджаў з добраўладкаванымі садкамі месціцца невялікая «беларуская вёска»: Беларуская бібліятэка, Марыян Хаўс (місія беларускіх манахаў-марыянаў) і жылы дом беларускай каталіцкай місіі ў Брытаніі. Яшчэ адзін суседні дом, што належаў беларускай місіі, быў нядаўна прададзены, а побач з Марыян Хаўс плануецца будаўніцтва царквы.

8 жніўня айцу Аляксандру Надсану споўнілася 85 год. Таксама сёлета спаўняецца 40 гадоў з дня ўрачыстага адкрыцця Скарынаўскай бібліятэкі ў Лондане. Падвойны юбілей бібліятэкі і аднаго з яе заснавальнікаў — нагода ўзгадаць пра гісторыю стварэння і пра ролю гэтай унікальнай беларускай установы.

**Алесь Чайчыц: Давайце пачнём храналагічна: як з'явілася ідэя стварэння бібліятэкі, каму яна належала?**

**Айцец Аляксандр Надсан**: Бібліятэка як збор кнігаў існавала з тых часоў, як беларусы, што ў час вайны апынуліся ў польскім войску ці ў Нямеччыне, прыехалі ў Вялікую Брытанію. У 1947 г. у Лондан прыехаў айцец (будучы біскуп) Чэслаў Сіповіч, вялікі кнігалюб. Ён ужо тады пачаў збіраць кнігі, і мы яму дапамагалі. Гэта была прыватная калекцыя, якая захоўвалася ў Марыян Хаўс.

Потым я паехаў у Рым і вярнуўся святаром у 1959 г. Хутка пасля мяне сюды прыехаў айцец Леў Гарошка, які перад гэтым быў у Парыжы, таксама вялікі кнігалюб. Думка пра бібліятэку прыйшла ў канцы 60-х.

Памятаю, як мы выйшлі на прагулку — біскуп Сіповіч, айцец Гарошка і я, і біскуп Сіповіч кажа: «Давайце будзем засноўваць беларускую бібліятэку». Мы кажам: «Давайце».



Будынак бібліятэкі.

Адрас бібліятэкі: 37 Holden Road, London N12 8HS (найбліжэйшая станцыя метро — Woodside Park).



Чытальная зала.

У гэты час якраз прадаваўся такі дом. Суседнія два дамы ўжо былі нашы, а насупраць быў Марыян Хаўс — таму гэта было вельмі выгодна. Мы дамовіліся з гаспадарамі і купілі дом. Пры гэтым залезлі ў даўгі. Трэба сказаць, што беларусы, якія жылі за мяжой, разумелі патрэбу ў такой установе і шмат дапамаглі. Але вялікую суму мусілі заплаціць мы самі, святары. Нашыя даходы былі малыя, і з тых даходаў мы бралі палову, каб з голаду не памерці, а палову аддавалі на бібліятэку.

Пасля кожны з нас склаў усе кнігі разам, і так паўстала бібліятэка, якая пачала расці памаленьку.

Беларусы замежжа перадавалі свае зборы. Акрамя гэтага мы сачылі за навінкамі, шукалі і куплялі іх. Шукалі па антыкварыятах розных краінаў: у Нямеччыне, Галандыі, Францыі — усюды, дзе магчыма.

**АЧ: Ці можаце прывесці прыклады такіх цікавых знаходак?**

**АН:** Беларускія старадрукі XVI–XVII стагоддзя. Шмат кніг XIX стагоддзя. Напрыклад, «Записки Іосифа Митрополита Литовскаго» 1883 г. — запісы біскупа Сямашкі, які знішчаў царкоўную Унію.

Маем такія рэдкія кнігі, як «Беларускі архіў», выдадзены ў 1824 годзе ў Маскве, які склаў вядомы тагачасны праваслаўны святар-беларус Грыгаровіч. Гэта першы археаграфічны зборнік беларускіх дакументаў.



Айцец Аляксандр Надсан.

**АЧ: Паралельна з бібліятэкаю з'явіўся і музей…**

**АН:** Музей — як бы дадатак да бібліятэкі, бібліятэка важнейшая, але і ў музеі таксама ёсць некалькі цікавых экспанатаў: слуцкія паясы, старыя манеты Вялікага Княства Літоўскага, пачынаючы ад срэбнай грыўны.

Вельмі важным таксама было збіранне архіўных матэрыялаў. Маем дакументы з канца XV стагоддзя і аж да сённяшняга дня.

**АЧ: Ці багата маеце рукапісаў беларускіх пісьменнікаў у зборы?**

**АН:** Якраз рукапісаў не так шмат. Ёсць нешта Арсенневай, Ілляшэвіча, Салаўя.

Ёсць таксама рукапісы Купалы і Коласа, у тым ліку рукапіс вядомай паэмы Купалы «Курган».

Самы ранні рукапіс Коласа, які ёсць у нас, гэта «Другое чытанне для дзетак-беларусаў» з 1905—1907 гг.

**АЧ: Якія цікавыя людзі наведвалі бібліятэку? У пачатку 90-х гадоў сюды прыязджала шмат урадоўцаў?**

**АН:** Шмат дзеячаў з усяго свету бывалі ў нашай бібліятэцы.

Былі Пазняк, Шушкевіч; пісьменнікі, паэты — Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін. З палітыкаў таксама Пятро Краўчанка. З царкоўных дзеячаў адведаў нас украінскі архібіскуп мітрапаліт Іосіф Сліпый, калі бібліятэка толькі была заснаваная. Усе беларускія амбасадары ў Брытаніі да нас прыходзілі. Быў Казулін (ягоны запіс ёсць у кнізе), Мясніковіч. Мы ўсіх прымаем.

Вельмі балюча толькі, што многія высокапастаўленыя беларускія ўрадоўцы не валодаюць беларускай мовай.

**АЧ: А акадэмічнае супрацоўніцтва з афіцыйнымі ўстановамі існуе?**

**АН:** Было вельмі добрае супрацоўніцтва з бібліятэкай Акадэміі навук, але цяпер з гэтым стала цяжэй — і нам, і ім. Падаражэлі паштовыя паслугі, падпіска на спецыялізаваныя часопісы, якія Акадэміі навук былі патрэбныя ў Брытаніі.

**АЧ: То бок перадусім з матэрыяльных прычынаў?**

**АН:** Так. Акрамя таго, у самой Беларусі беларуская выдавецкая справа цяпер слабая. Зрабіць нейкі афіцыйны абмен з Беларуссю вельмі цяжка.

**АЧ: Фонд бібліятэкі працягвае папаўняцца?**

**АН:** З вялікай цяжкасцю.

**АЧ: Ці было супрацоўніцтва з такімі ж установамі ў іншых краінах? У Празе, здаецца, беларусы нядаўна стварылі бібліятэку…**

**АН:** У Празе бібліятэку толькі цяпер стварылі, спадзяюся, што яна будзе расці. У Амерыцы, на жаль, нічога створана не было — магчыма, былі іншыя абставіны. Там болей беларусаў, чым тут, і магчымасці, у тым ліку матэрыяльныя, былі — але чамусьці не склалася.

Некаторыя амерыканскія беларусы прыватна сабралі вялікія зборы кніг — доктар Вітаўт Тумаш (выдатны чалавек і скарыніст), сям'я Кіпеляў, доктар Мацей Смаршчок.

Некаторыя амерыканскія беларусы перадалі свае прыватныя бібліятэкі амерыканскім універсітэтам. І гэта вельмі добра — ва ўніверсітэцкіх бібліятэках кнігі не прападуць і будуць даступныя для даследчыкаў — галоўнае, каб людзі ведалі, дзе шукаць. Плюс, значную частку кніг людзі з Амерыкі, канечне, перадалі нам у Лондан.

У гасцявой кнізе Бібліятэкі — запісы многіх вядомых людзей, ад Зянона Пазняка да Андрэя Саннікава. Гэта сапраўды месца, якое абавязкова варта наведаць. Самае лепшае — прыехаць у нядзелю зраніцы: у 10:30 паўдзельнічаць у набажэнстве, якое служаць а. Сяргей Стасевіч і а. Аляксандр Надсан, а потым, пасля кубка гарбаты, наведаць саму бібліятэку.

**АЧ: То бок самое існаванне бібліятэкі — гэта як сцяг: раз ёсць бібліятэка, значыць людзі ведаюць, што ёсць і такая краіна.**

**АН:** Так.

**АЧ: Як Вы бачыце будучыню бібліятэкі, як яна павінна далей развівацца, на Вашу думку?**

**АН:** Я шмат думаю пра гэта, як і пра далейшае існаванне місіі. Зараз чакаем сканчэння рамонту Марыян Хаўс, потым хачу сабраць нашу бібліятэчную раду, каб думаць, як бібліятэцы далей існаваць. Мне ўжо 85 гадоў, пара думаць пра тое, каб нехта заняў маё месца. Справа нават не фінансавая, а ў чалавеку, які б гэтым займаўся.

Яшчэ шмат недахопаў у бібліятэцы: каталог не скончаны, а я гэтым займацца ўжо не магу. Але ёсць тут і багацці, якіх больш нідзе няма.

Калі б Беларусь была сапраўды незалежнай і беларускай, трэба было б, каб урад пераняў на сябе кіраванне бібліятэкай, і мы б з радасцю яму яе аддалі.

Брытанцы маюць British Council у іншых краінах, немцы — Гётэ-Інстытут. Скарынаўская бібліятэка была б такім беларускім культурным цэнтрам пры амбасадзе Беларусі.

Але мы не маем маральнага права і не хочам перадаваць бібліятэку ў рукі сучасных уладаў, дзе нават прэзідэнт не размаўляе па-беларуску.

Дзякуй Богу, што бібліятэка ёсць, і я думаю, што яна будзе існаваць надалей і прыносіць карысць. Але ў вялікай ступені гэта будзе залежаць ад самой Беларусі. Калі Беларусь будзе сапраўды беларускай, тады ўрад будзе зацікаўлены ў развіцці бібліятэкі.

**Гутарыў Алесь Чайчыц, фота аўтара**



Вольная Беларусь жыве ў вольным
духу. Бібліятэка, музей, царква — уся
ахвярная праца ахвярных людзей дзеля
будучыні прыносіць плён і сведчыць,
што нішто зробленае добрае і ахвя-
раванае дзеля дабра Бацькаўшчыны
не мінае, не знікае, калі робіцца
з верай і з Богам у душы.
Жыве Беларусь! Зычу здароўя
высокашаноўнаму айцу Аляксандру
Надсану і ўсім ахвярнікам дзеля
Веры і Беларусі!!
Зянон Пазняк
4. лютага 1995 г.

Аўтограф Пазняка.

# Егіпет краечкам

*«Чаго вы да мяне звяртаецеся па валюту, каб паехаць ў Егіпет? Гэта вышэй даху, вышэй нахабства.»*
***А. Лукашэнка, у абурэнні, на нарадзе 27 мая.***



**Дыктатуры мінаюць, а піраміды застаюцца.**

## Каго падтрымаць еўра

Ясна, што ні ў якога Лукашэнкі мы нічога не прасілі — грошы на летнюю вандроўку збіралі гадамі, а зарабляюцца яны ў нашай сям'і, як і ва многіх беларускіх сем'ях, хутчэй не дзякуючы існаванню Лукашэнкі, а насуперак яму. Што ж да таго, куды паехаць летам — то вырашылі падтрымаць сваім рублём (дакладней, еўра) геранчны егіпецкі народ — тым больш што ў Афрыку хацелася даўно, і кожны з нашай сям'і меў там свае зацікаўленні: нехта марыў ступіць на плошчу Тахрыр, нехта хацеў прайсці шляхамі фараонаў, а нехта — сцяжынкамі Бармалея. Таму з канцавой мэтай вандроўкі вызначыліся хутка.

Аказалася, што на шляху ў Афрыку наша сям'я падтрымае еўра і гераічны ўкраінскі народ у той форме, што паляціць у Хургаду самалётам «Украінскіх авіяліній» — гэта на 60% танней, чым з Мінска «Белавія». А паколькі нас пяцёра — то эканомія выявілася досыць значнай. Трэба сказаць, што беларусаў у аэрапорце Барыспаль было шмат. Вобразна кажучы, на плошчу Тахрыр яны дабіраліся праз майдан Незалежнасці.

Самалёт амаль цалкам гаманіў па-ўкраінску. Маёй суседкай аказалася кіеўская пенсіянерка авантурнага характару, якая ляцела ў Хургаду... на дачу, набытую на беразе Чырвонага мора некалькі год таму. Цяпер гэтая дачніца жыве на дзве краіны. «Жыву як каралева, — пахвалялася яна. — Нават па рэстаранах хаджу. І ўсё — за 200 даляраў у месяц. Каб так жыць у Кіеве, мне спатрэбілася б 2000».

## Успамінаю «П'яўку»

Пад такія размовы знізу наперадзе ў сінечы Міжземнага мора вымалёўваўся, як на карце ў атласе, бераг Афрыкі, з выразнай дэльтай Ніла, з трыма пірамідамі Гізы, з месяцовым пейзажам пустыні — і неўзабаве мы селі ў аэрапорце былога рыбацкага пасёлка Хургада.

Афрыканская спякота ўспрымаецца зусім не так, як наша, дзякуючы таму, што паветра вельмі сухое і ўвесь час вее моцны вецер з пустыні. Іхнія 40 градусаў адпаведныя па ўспрыманні нашым трыццаці. Але ўсім, хто прыязджае ў Афрыку ўпершыню, трэба быць гатовымі да сустрэчы з невядомай нам афрыканскай мікрафлорай, да таго, што называецца акліматызацыяй і адаптацыяй. Вельмі часта яна праходзіць у досыць цяжкай форме — тэмпература, расстройства жывата... Калі на другі дзень па прыбыцці чацвёра з пяці маіх сямейнікаў зваліліся з такімі сімптомамі, я была амаль у паніцы. Сустрэтыя суайчыннікі супакоілі: «Вы першы раз у Афрыцы? Ну тады гэта нармальна. Пратрывайце дзень, усё наладзіцца». І праўда — за дзень усё прайшло. Праўда, на экскурсіях я сустракалася з людзьмі, якім «не прайшло», і яны траплялі пад кропельніцу... Пра гэта чамусьці не папярэджваюць у турыстычных кампаніях.

Увогуле, першыя ўражанні ад Афрыкі да спалоху нагадалі апакаліптычныя апісанні з «П'яўкі» Юрыя Станкевіча: гарачыня, як у апраметнай, бясплодныя пяскі на сотні кіламетраў, гурбы смецця абапал дарог... Але людзі тут жывуць — і людзі вельмі цікавыя.

1 егіпецкі фунт быў прыблізна роўны 1 тысячы беларускіх, калі браць курс чорнага рынку.



**Дайвінг — бонус курортаў на Чырвоным моры.**




**Моладзь звязвае з сыходам Мубарака надзеі на будучыню.**

## Leave, leave, Mubarak!

Егіпцяне ганарацца сваёй рэвалюцыяй і тым, што скінулі Мубарака. Пра апошняга ўсе — ад заможных, што адпачывалі ў гатэлі, да не вельмі заможных, што падмяталі там дарожкі — адгукаліся з нянавісцю.

«Мубарак 30 год душыў мары, надзеі і амбіцыі егіпцян», — прыпячатаў Мухамед Ахмед, студэнт-юрыст, старэйшы сын у вялікай егіпецкай сям'і (бацька, дзве жонкі і шасцёра дзяцей), з якім мае дзеці закарашыліся ў гатэльным більярдзе.

«Мубарак leave — і слава Алаху! — прыпячатаў гандляр майкамі. — Але, мадам, цішоткі з такім надпісам не маю. Дый навошта вам яна? Ён жа ўжо leave!»

І сапраўды, навошта, — думаю я сабе. Замоўлю я лепш сабе па вяртанні кашульку з больш актуальным надпісам, напрыклад: «Міністэрства інфармацыі не папугай. Яно свінтус грандыёзус!!!».

Па пятніцах егіпцяне зноў збіраюцца на плошчы Тахрыр — каб дамагчыся суда над Мубаракам. Прабачэння яму, мусіць, не будзе.

...Перад паездкай натыкнулася на выказванне аднаго з найлепшых егіпецкіх пісьменнікаў: «За два месяцы да рэвалюцыі я быў на прыёме ў палацы прэзідэнта Мубарака. Я пабываў на прыёме ў цара: лізаблюды і падхалімы вакол, гнілая раскоша карупцыі, і нічога наперадзе. Я вярнуўся адтуль прыгнечаным. Мёртвая атмасфера з таго прыёму, здавалася, забівае ўсю краіну. Але я памыляўся. Мая краіна жыве!»

## Праз тысячагоддзі

Чым жыве Егіпет, мне стала трошкі зразумела з размовы з Абду. Абду, адвучыўшыся 7 год на адваката, працуе ў турагенцтве. Ён — нубіец, родам з Асуана.

— Мы — не арабы, — тлумачыць нам Абду. — У нас, нубійцаў, свая мова. Мы не маем пісьменнасці, але мусім перадаваць мову дзецям, як перадалі яе нам продкі з часоў фараонаў, якія захапілі нубійскую пустыню. Мова фараонаў загінула, а наша — жыве. У мяне будуць дзеці, у майго брата ёсць дзеці — мы перадамо ім нашу мову. О, наша мова выдатная! Вось прыязджайце да нас у Асуан у кастрычніку — тады ў нас не душна, тады ў нас час святаў. Нубійцы танцуюць, спяваюць. Белыя адзежы, белыя зубы, чорная скура — гэта прыгожа! У мяне 10 імёнаў — маё імя, майго бацькі, дзеда, прадзеда і так далей. У майго сына будзе 11, а ў ўнука — 12 імёнаў. Мы помнім мінулае.

...У крамцы прыпраў і алеяў, якую трымаюць Абду з братам, Поля запісала на камеру іхнія спевы на мове нубійцаў, а таксама атрымала боб какавы ў падарунак і добрую зніжку на бедуінскі чай.

## Турыстычныя радасці

Турыстычная галіна ў Егіпце будуецца на наяўнасці Чырвонага мора — чыстага, цёплага, як кампот, поўнага каралаў і рыб.

Другая турыстычная радасць у Егіпце — сістэма «ўсё ўключана», па якой працуюць тамтэйшыя атэлі. Азначае гэта, што без перапынку на працягу сутак турыстаў кормяць і пояць — еш і пі, хоць расперажыся — і ненавязліва забаўляюць. Мне цяжка ўявіць такое ў беларускіх дамах адпачынку, цана ў якіх супастаўная з коштам пуцёўкі ў Егіпет...

Але, ідучы ў рэстаране гатэля паўз бясконцыя рады вытанчаных страваў з самых свежых прадуктаў, мне цяжка пазбыцца ўражання, што гэткае свята ўжывання — нешта неправільнае, калі побач, літаральна за некалькі тысяч кіламетраў, людзі пакутуюць з голаду...

Што да зніжак — то турыстам ў Егіпце варта таргавацца. Тое нямногае, што можна прывезці з Егіпта, турыстам прапануюць заведама утрыдорага. А ўвогуле, калі меркаваць па цэнах на прадукты і па сцэнах жыцця егіпецкіх гарадкоў, можна зрабіць выснову, што па ўзроўні развіцця Егіпет прыкладна роўны Беларусі.

Хлапчына-прыбіральшчык, раўналетак маёй Полі, кажа: «Не, я ніколі не змагу паляцець у Беларусь, гэта вельмі дорага, я ніколі не зараблю столькі грошай...» І ў Беларусі ведаю шмат людзей, якія таксама ніколі не заробяць столькі грошай, каб злётаць у Егіпет.

І гэта выклікае злосць на несправядлівасць.

## Зміцер выходзіць з сябе

А ў майго мужа, які клапатліва распрацоўваў план вандроўкі і насалоджваўся кожнай хвілінай свайго ўдалага выбару, злосць выклікаюць спробы асобных дзеячаў турбізнэсу трымаць нас за лахоў.

Першы раз ён выйшаў з сябе, калі расейскамоўная гід у Карнакскім храме замест таго каб правесці экскурсію, прадавала турыстам срэбра. «Калі вы не правядзеце зараз паўнавартасную экскурсію, — заявіў Зміцер, стаічна выслухаўшы лекцыю пра лекавыя вартасці срэбных картушоў, а потым — прапанову пагуляць па храме самастойна, — то я напішу скаргу ў Ваша міністэрства па турызме».

Гід здзівілася, але экскурсію усё ж правяла.

(У Карнакскім храме я доўга насілася вакол выявы скарабея, які выконвае жаданні. Два з маіх жаданняў былі прыватнымі, а адно — грамадска значным (раскрываць не буду, каб не сурочыць, але, думаю, усе здагадваюцца, якім менавіта).

Другі раз Зміцер выйшаў з сябе ў аэрапорце, на зваротным шляху. Рэгістратар, атрымаўшы пяць нашых пашпартоў, за магчымасць нам ляцець побач, у адным радзе, запатрабаваў даляр.

— Вы дасце нам квіткі побач без аніякага бакшышу, інакш будзеце мець скандал!

На гэты выгук побач матэрыялізаваўся супрацоўнік службы бяспекі аэрапорта.

— Хто вымагаў з вас даляр, сэр? Гэта вельмі важна! Калі ласка, пакажыце, хто патрабаваў з вас грошы?

— Ніхто не патрабаваў з нас грошы, — цвёрда сказала я, атрымаўшы квіткі. — Гэта прыкрае непаразуменне.

Квіткі нам выдалі ў казырны першы рад.

## «Сярод пяскоў Егіпецкай зямлі...»

Дачка ж прывезла з Егіпта пясок — да помніка таму, хто... Памятаеце?

Сярод пяскоў Егіпецкай зямлі,
Над хвалямі сінеючага Ніла,
Ужо колькі тысяч год стаіць магіла:
У гаршчку насення жменю там знайшлі…

Вось сімвал твой, забыты краю родны:
Узрушаны нарэшце дух народны,
Я верую, бясплодна не засне,
Наперад рынецца, маўляў, крыніца…

Пясок цяпер ляжыць на пастаменце помніка ў Мінску.

**Наталка Бабіна**

**Ганарар за публікацыю хацела б перадаць сям'і Мікіты Ліхавіда.**

# Хай жыве пераварот!

19 жніўня спаўняецца 20 гадоў ад спробы дзяржаўнага перавароту ў СССР. Ён паскорыў развал савецкай імперыі і атрыманне незалежнасці Беларуссю. Піша **Анатоль Сідарэвіч**.



**Пасля прыпынення дзейнасці кампартыі. Дэпутаты апазіцыі БНФ блакуюць будынак ЦК КПБ (цяпер —рэзідэнцыя прэзідэнта), каб не дапусціць вынасу маёмасці. Жнівень 1991 г. Фота з кнігі «Хрышчэнне нацыі. Масавыя акцыі 1988–2009».**

Колькі ні намагаюся, не магу згадаць, калі я плакаў: 25 жніўня 1991-га, калі набыла сілу Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце, ці 19 верасня, калі дзяржаўным сцягам Беларусі стаў бел-чырвона-белы? Помню адно: стаю на плошчы Леніна трохі лявей ад помніка «правадыру сусветнага пралетарыяту», бліжэй да пэдінстытута, падыходзіць да мяне Валодзя Арлоў, працягвае руку, хоча паздароўкацца і павіншаваць, а я плачу як бабёр. Я не хачу плакаць, але слёзы цякуць у мяне самі...

Мусіць-такі, гэта было 25 жніўня.

А 19-га апоўдні я на праспекце Машэрава, каля крамы «Ромашка», сустрэў пані Вячоркаву — знаёмую мне выдавецкую рэдактарку, жонку загадчыка эканамічнага аддзела ЦК КПБ і маці «небезызвестного» Вінцука Вячоркі. Яна, як гэта водзіцца ў славянскіх мацярок, ледзь не загаласіла, ва ўсякім разе завяла: і што ж гэта будзе і з вамі, і з маім сынам?..

Я не мог уцяміць, пра што яна заводзіць. Справа ў тым, што тэлевізара я не трымаў і не трымаю прынцыпова (хіба што бяру ў пракат на час чэмпіянатаў свету і Еўропы па футболе), радыёпрымач у той дзень не ўключаў, тэлефона аб той пары не меў і з раніцы на людзі не выходзіў. І вось Аляўціна Сямёнаўна заводзіць мне пра нейкі дзяржаўны пераварот, пра надзвычайнае становішча...

Так нічога не ўцяміўшы як след, я пайшоў у Дом кнігі, у нейкае выдавецтва (крыж святы, не магу ўспомніць, у якое) і там пачуў ужо нейкую канкрэтыку пра арышт у Крыме Міхаіла Гарбачова, пра віцэ-прэзідэнта СССР Генадзя Янаева і хунту, якую ён узначаліў. З праспекта Машэрава я ледзь не подбегам пайшоў на вуліцу Кісялёва — у рэдакцыю часопіса «Крыніца», на працу. Як на зло, у рэдакцыі не было ні тэлевізара, ні радыёкропкі, ні радыёпрымача. Дапамог мастацкі рэдактар Канстанцін Вашчанка: прымач быў у ягонай машыне. Я забраўся ў салон, Канстанцін уключыў мне радыё, і я пачуў...

Я ржаў як конь. Мацней за Уладзіміра Караткевіча. Тое, што я пачуў па радыё, было верхам дурасці. Кожны савецкі чалавек ведаў, што таварных запасаў у краіне вобмаль, што гандаль ідзе практычна «з калёсаў», а гэтыя змоўшчыкі абяцалі нам ледзь не залатыя горы і малочныя рэкі з кісельнымі берагамі. Паслухаўшы зварот (ці адозву?) хунты, я супакоіўся.

Не ведаю, што мяне супакоіла. Хутчэй за ўсё падсвядомае разуменне, што нічога ў тых хлопцаў не атрымаецца. Калі пані Аляўціна заводзіла пра невядомы наш — Вінцукоў і мой — лёс, я азіраў праспект Машэрава і той вялікі пляц паміж Палацам спорту і спартыўнай залай, што стаіць на пачатку праспекта. Ніякага патруля, ніякай вайсковай тэхнікі і ніводнага вайскоўца. І па дарозе ў выдавецтва нічога такога не заўважыў. І па дарозе ў рэдакцыю «Крыніцы». Спраўна працавалі рэдакцыйныя тэлефоны. А я ж вывучаў лісты Уладзіміра Ільіча пра вакзалы, масты, пошту, тэлеграф і тэлефон... Спраўны рэдакцыйны тэлефон зазваніў, і мне паведамілі (зноў не памятаю, хто), што я павінен быць у Музеі Максіма Багдановіча на Рабкораўскім завулку, бо там збяруцца дзеячы дэмакратычных партый і апазіцыйныя дэпутаты Вярхоўнага Савета.

На чым грунтавалася маё падсвядомае разуменне, што нічога ў тых хлопцаў не атрымаецца? Паўтараю: 19 і 20 жніўня 1991 г. я не бачыў на экране тэлевізара спалоханыя твары змоўшчыкаў і як трасуцца рукі Генадзя Янаева. Гэта ўсё я ўбачу пазней, post festum. Мусіць, спрацоўвала маё веданне сістэмы, веданне якасці капээсэсаўскай эліты, яе тупасці. А тут на чале змовы стаў былы камсамолец, і нават не былы першы сакратар камсамола, а былы старшыня камітэта маладзёжных арганізацый СССР. На такую пасаду звычайна накіроўвалі людзей без перспектывы. Тое, што Міхаіл Гарбачоў выбраў сабе ў намеснікі Генадзя Янаева, здзівіла не аднаго мяне. У КПСС і па-за партыяй хадзіла прымаўка: хочаш сапсаваць справу — даручы яе камсамолу. Партыйныя і гаспадарчыя бонзы кпілі з камсамольскіх правадыроў: дзеці, толькі п'юць і я.уцца, як дарослыя. Гэта цалкам датычыла Генадзя Янаева, які пры абмеркаванні ягонай кандыдатуры на пасаду віцэ-прэзідэнта СССР публічна пахваліўся, што ў яго добрая сэксуальная патэнцыя. Так і хочацца працытаваць адпаведную мясціну з «Лукі Мудзішчава», але не буду.

Як казалі случакі ў пару маёй ранняй маладосці, у такіх людзей магло атрымацца толькі дрэк міт пфэфер. (Хто не разумее ідыша, можа зазірнуць у нямецкі слоўнік.) КПСС ужо даўно нагадвала мне вялікую істоту міт а клэйнэ кепэлэ, як, зноў жа, казалі ў старым Слуцку. Пётр Машэраў і Ціхан Кісялёў былі апошнія першыя сакратары ЦК КПБ, якія чыталі кнігі. А ў Маскве ўсе гэтыя брэжневы-чарненкі іх даўно не чыталі. Перад славутымі Дзядамі 1989 г. пра адсутнасць мазгоў у КПСС я казаў на адкрытым партыйным сходзе ў Саюзе пісьменнікаў у прысутнасці першага сакратара Мінскага гаркама Галко. І адзін пісьменніцкі начальнік хуценька адхрысціўся ад мяне: Сідарэвіч — не член Саюза.

Пасля нарады ў Музеі Максіма Багдановіча я сеў рабіць нумар партыйнай газеты «Грамада». А 20-га ўвечары паехаў у Оршу: дырэктар тамтэйшай друкарні не адмаўляўся друкаваць апазіцыйныя выданні. Прытулак мне далі брат і братавая Змітра Санько, цяперашняга галоўнага рэдактара выдавецтва «Тэхналогія».

І наборшчыца, і вярстальшчыца былі здзіўленыя, калі ўбачылі загаловак артыкула на першую паласу. Называўся той артыкул проста, але трохі нечакана: НЯХАЙ ЖЫВЕ ПЕРАВАРОТ! У гэтым артыкуле я сцвярджаў, што путч азначае скон Савецкага Саюза. Калі б не путчысты, кажу я цяпер, магчыма, быў бы падпісаны новы Саюзны дагавор і СССР яшчэ нейкі час праліпеў бы. Путчысты паскорылі распад Саюза. У тым тэксце, помніцца, я цытаваў двух чалавек. Старшыню Вярхоўнага Савета Расіі Руслана Хасбулатава, які ўжыў вобраз дыназаўра (вялікае тулава і малая галава), і майго таварыша па партыі, паэта і дэпутата Анатоля Вярцінскага, які недзе за год да путчу сказаў, што Беларусь асуджана на незалежнасць.

Калі нумар «Грамады» быў надрукаваны, у чаканні электрычкі на Мінск я сядзеў перад тэлевізарам у доме Санькоў і глядзеў прэс-канферэнцыю Міхаіла Гарбачова. І калі канферэнцыя падышла да завяршэння, я на ўсю хату выгукнуў: «Ну і дурань ты, Міша!» І патлумачыў Санькам: у Гарбачова быў выдатны момант звярнуцца да сяброў КПСС з заклікам стварыць сацыял-дэмакратычную партыю, але ён настолькі не пераадолеў у сабе бальшавізму, што не здолеў да гэтага дадумацца. КПСС, у тым ліку КПБ, у адрозненне ад «братніх» партый у Польшчы, Венгрыі, Балгарыі і нават ад камуністаў Літвы, настолькі загрузла ў сталінізме, што ідэйна рэфармавацца прост не магла. І гэта прыспешыла яе смерць.

...Едучы з Оршы ў Мінск, я шкадаваў пра тое, што мне не ўдалося рэалізаваць адну задуму. Прафесар Мікалай Ігнатавіч Крукоўскі і я (з ягонай падачы) меліся напісаць артыкул і ў гэтым артыкуле з чыста марксісцкіх пазіцый давесці, чаму СССР павінен памерці. Пакуль мы збіраліся напісаць, СССР узяў і сканаў. У многім дзякуючы безгалоўю лідараў КПСС.

**Дзяржаўны камітэт па надзвычайным становішчы (ГКЧП)** — самаабвешчаны орган у СССР, які складаўся з шэрагу прадстаўнікоў кіраўніцтва ЦК КПСС і ўрада СССР, што ажыццявіў 18—21 жніўня 1991 «жнівеньскі путч» — спробу гвалтоўнага адхілення Міхаіла Гарбачова з пасады прэзідэнта СССР, змены яго курса і зрыву прызначанага на 20 жніўня 1991 года падпісання «Дамовы аб Саюзе суверэнных дзяржаў». Дзеянні ГКЧП былі кваліфікаваныя як дзяржаўны пераварот. Самі путчысты казалі, што спрабуюць аднавіць законнасць і прадухіліць распад СССР.

Першай праявай таго, што ў краіне не ўсё ў парадку, сталі змены ў праграме тэлеперадач. Па тэлевізары цэлы дзень паказвалі балет «Лебядзінае возера».

Старшынёй ГКЧП быў абвешчаны Генадзь Янаеў, віцэ-прэзідэнт СССР, аднак фактычным кіраўніком путчу быў старшыня КДБ СССР Уладзімір Кручкоў. У хаўрусе з імі былі міністр абароны Дзмітрый Язаў, прэм'ер-міністр Валянцін Паўлаў, намеснік старшыні Савета абароны СССР Алег Бакланаў, аграрый Васіль Старадубцаў, прамысловец Аляксандр Цізякоў.

У часе путчу ў Маскву былі ўведзеныя танкі. Бараніць Белы дом, штаб прэзідэнта РФ Барыса Ельцына, сабраліся тысячы чалавек. Загінулі трое, задушаныя гусеніцамі танкаў.

Пасля правалу ўсе члены ГКЧП былі арыштаваныя, за выключэннем міністра ўнутраных спраў СССР Барыса Пуга, які застрэліўся. У 1994 г. путчыстаў амніставалі яшчэ да суда і выпусцілі з «Матроскай цішыні».

«Жнівеньскі путч» стаў апошняй кропляй, якая разбурыла СССР. Неўзабаве была спыненая дзейнасць КПСС і адбыўся «парад суверэнітэтаў» саюзных рэспублік.

# Хто дзе быў 19 жніўня

Педагог, а ў далёкім 1991-м — дэпутат Вярхоўнага Савета XII склікання, Лявон Баршчэўскі ўспамінае, як раніцай 19 жніўня, дазнаўшыся пра маскоўскія падзеі, у Мінск пачалі з'язджацца палітыкі.

Апазіцыя БНФ у той самы дзень склала заяву з асуджэннем путчыстаў і заклікам абараніць канстытуцыю і дэмакратыю. Дэпутаты ўручную вырабілі некалькі соцень улётак і раскідалі па бліжэйшых кварталах Мінска. Сярод дэпутатаў пашыралася і другая заява —аб збіранні пазачарговай сесіі парламента.

Лідар Народнага Фронту Зянон Пазняк прыехаў у Вярхоўны Савет у сярэдзіне дня — ён да таго часу «перахоўваў нешта сакрэтнае».

Мітынг каля Дома ўрада 19 жніўня пачаўся а 18.30, сабралася нямнога людзей — трохі больш за сотню. Тады, дарэчы, адбыўся палітычны дэбют Міколы Статкевіча. Выкладчык ВІЗРВ, у форме з пагонамі падпалкоўніка, ён заявіў, што войска — не на баку «путчыстаў».

Дэпутат і рэдактар газеты «Свабода» Ігар Гермянчук у складзе дэлегацыі апазіцыйных дэпутатаў пайшоў да тагачаснага старшыні Вярхоўнага Савета Мікалая Дземянцея, каб патрабаваць асу-джэння путчу і склікання сесіі Вярхоўнага Савета. Пры сабе Гермянчук меў дыктафон. Пасля словы Дземянцея, які апраўдваў путчыстаў, трансляваліся праз рэпрадуктары на плошчу Незалежнасці. У падтрымку ГКЧП выступіў па радыё і першы сакратар ЦК КПБ Анатоль Малафееў.

Гэтым беларуская камуністычная вярхоўка настолькі дыскрэдытавала сябе ў вачах грамадства, што ў наступныя пасля путчу дні ў Беларусі была прыпыненая дзейнасць не толькі камуністычнай партыі, але і камсамола. У ніводнай іншай рэспубліцы СССР такога не было.

Прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч быў 19—21 жніўня цішэй вады, ніжэй травы і яўна вычэкваў, чым усё скончыцца.

Першы намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч паставіў подпіс пад адозвай. Больш за тое —ён даў апазіцыі магчымасць праз урадавую сувязь выходзіць на кантакт з маскоўскім Белым домам.

Дэпутат ВС Аляксандр Лукашэнка з'явіўся ў Мінску 20 жніўня. Пад адозвай з асуджэннем ГКЧП ён не падпісаўся. Паставіў подпіс толькі пад заявай аб скліканні пазачарговай сесіі. У часе яе і была абвешчана незалежнасць Беларусі.

**Сяргей Мікулевіч**

# Хрышчэнне нацыі

## Ад Курапатаў да Плошчы-2010

Выданне на 576 старонак складаецца з трох частак — група палітолагаў на чале з доктарам Андрэем Казакевічам ажыццявіла аналіз вулічнай актыўнасці беларусаў у 1988—2009 гадах. Гісторык Алег Дзярновіч дапоўніў аналіз малавядомымі дакументамі. А рэдактары кнігі падабралі з архіваў сотні фатаграфій. Выданне ўнікальнае па паўнаце сабранага матэрыялу.

Пытайцеся ў кнігарнях і ў незалежных распаўсюднікаў.




Хрышчэнне нацыі. Масавыя акцыі 1988–2009 / Пад рэд. В.Булгакава, А.Дынько. — Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства; Вільня: Інстытут беларусістыкі; Мінск: Палітычная сфера, 2011. —576 с.; [8] л.іл.

# Трагедыя ў Міры

У касцёле на сямігадовага хлопчыка абрынулася мемарыяльная дошка.

Трагедыя здарылася ў суботу 30 ліпеня ў касцёле Святога Мікалая неўзабаве пасля вянчання. Вось што расказаў адзін з мясцовых жыхароў.

Маладыя распісаліся ў пасялковым савеце, а потым разам з гасцямі праз дарогу перайшлі ў касцёл. Малады з Гродна, маладая — з адной з карэліцкіх вёсак.

Сярод гасцей быў 7-гадовы Ігнась Панасевіч з Брэста. На вяселле прыехаў з бацькамі. У часе вянчання хлопчык апынуўся каля нішы, дзе была размешчаная мемарыяльная дошка ў гонар Іпаліта Дамейкі. Бацька філамата і даследчыка Чылі Ігната Дамейкі быў адным з фундатараў касцёла, памятную таблічку ў яго гонар вырабілі некалькі гадоў таму.



Яна доўгі час стаяла проста пры сцяне храма, а некалькі гадоў назад адна з мінскіх фірмаў замацавала яе на сцяне.

Невядома, ці датыкаўся хлопчык да яе, ці дошка сама абрынулася на дзіця. Сябар сям'і Панасевічаў брэсцкі гісторык Ігар Бараноўскі расказаў «НН», што маладыя, у якіх на вяселлі здарылася такая жудасная трагедыя, былі шакаваныя не менш за бацькоў хлопчыка.

Сп. Бараноўскі кажа, нібыта тая дошка падала і раней, але, на шчасце, тады ніхто не пацярпеў.

Панасевічы апошні час жылі ў Польшчы, а цяпер на месяц прыехалі ў Беларусь, у тым ліку і на вяселле да сваякоў. Яны належаць да каталіцкай супольнасці «Новы шлях» (Chemin Neuf), сына назвалі ў гонар заснавальніка ордэна езуітаў Ігнацыя Лаёлы.

Дарэчы, «НН» змяшчала вялікі матэрыял пра гэтую дружную сям'ю (№7 ад 21 лютага 2008).

Ігната Панасевіча пахавалі 2 жніўня на могілках пад Брэстам.

Фатум: хлопчык Ігнась загінуў пад шыльдай у гонар бацькі Ігната Дамейкі.

Непадалёк, дарэчы, магіла мастака Міколы Селяшчука, які таксама трагічна загінуў.

Цяпер здарэнне ў мірскім касцёле расследуе пракуратура.

Пробашч касцёла а.Аляксандр быў лаканічны. «Гэта вельмі сумная сітуацыя. Мы молімся за гэтага хлопчыка».

Трагедыя ў мясцовым касцёле — не адзінае здарэнне, якое ўзрушыла мірчукоў і патрапіла ў міліцэйскую зводку. У аўторак 26 ліпеня жудасны выпадак здарыўся каля Міра, паведамляе сайт УУС Гродзенскага аблвыканкама. Трактарыст 1967 г.н. выйшаў са свайго К-701. Той пакаціўся, трактарыст паспрабаваў дагнаць яго, каб спыніць, але трапіў пад задняе кола і загінуў.

**Сямён Печанко**



Сям'я Панасевічаў. Ігнась — на руках у мамы.

## На Ваўкавыскім мясакамбінаце знайшлі вірус шаленства ў мясе

Аднак спачатку хавалі тую інфармацыю.

У рэдакцыю «Нашай Нівы» звярнуліся занепакоеныя ваўкавыскія чытачы з паведамленнем, што ў мясе жывёл, дастаўленай на мясцовы мясакамбінат, знойдзены вірус шаленства. І супрацоўнікам прадпрыемства робяць прышчэпкі ад гэтага захворвання.

Адзін з працаўнікоў мясакамбіната, з якім удалося звязацца журналісту «НН», паведаміў, што ў у часе забою быдла ў некалькіх асобін былі выяўлены сімптомы шаленства. Падазроныя тушы адразу адправілі на экспертызу. Іх мяса патрапіць у прадукцыю прадпрыемства не магло. На камбінат былі выкліканы спецыялісты ветэрынарнай інспекцыі і галоўурач санэпідэмстанцыі Ваўкавыска.

Інфармацыю пацвердзіў газеце «Вечерний Гродно» галоўны дзяржветінспектар Гродзенскай вобласці Мікалай Кот. 2 жніўня эксперты за пацвердзіла наяўнасць віруса ў даследаваным мясе. Аднак знайдзенае шаленства з'яўляецца прыроднай формай гэтай хваробы (асноўныя пераносчыкі — лісы). Гэта не было асабліва небяспечнае каровіна шаленства. Таксама спецыяліст запэўніў, што няма падставы хвалявацца за якасць астатняй мясной прадукцыі Ваўкавыскага мясакамбіната. Вірус шаленства гіне пры тэрмічнай апрацоўцы, якую праходзяць усе тушы жывёл, і не можа нашкодзіць чалавечаму здароўю.

Хворая худоба трапіла на камбінат з фермы «Малькавічы» СВК «Азяранскі» Мастоўскага раёна.

Цяпер тыя тушы знішчаныя, а на ферме праводзіцца вакцынацыя скаціны. Таксама зрабілі прышчэпкі забойшчыкам з мясакамбіната.

У самім Ваўкавыску гэтую шараговую справу трымалі ў таямніцы. У прыёмнай Ваўкавыскага мясакамбіната 4 жніўня журналісту «НН» катэгарычна адказалі, што ніякага шаленства ў жывёл, якую закупляе прадпрыемства, няма. Інакш кажучы, зманілі. У ваўкавыскай санэпідэмстанцыі далі такі ж адказ, дадаўшы, што ніхто з мясакамбіната не паведамляў ім пра выпадкі шаленства.

**Міхаліна Дзятлік**

## Аўтобус з беларусамі трапіў у аварыю ў Расіі

Адзін чалавек загінуў, пяцёра параненыя ў дарожна-транспартным здарэнні ў Тульскай вобласці (Расія).

Паводле папярэдніх звестак, мікрааўтобус з беларусамі, які ехаў з Беларусі ў кірунку Масквы, 6 жніўня каля 8-й раніцы сутыкнуўся з панэлявозам. У аўтобусе было двое дарослых і дзевяць дзяцей. У выніку здарэння адзін чалавек загінуў, пяць было паранена.

**СМ**

## УАЗ са спецназаўцамі перавярнуўся ў ДТЗ

Усяго ў аварыі разбіліся 4 аўтамабілі.

4 жніўня ў Мінску на плошчы Багушэвіча сутыкнуліся чатыры аўто: Mercedes, Citroen, Nissan і УАЗ. Nissan зачапіў спадарожны Citroen, той ад удару выехаў на паласу сустрэчнага руху, дзе ўрэзаўся ў Mercedes. За апошнім ехаў міліцэйскі УАЗ, у ім былі два супрацоўнікі мінскага спецназа. Кіроўца УАЗіка не паспеў зрэагаваць, ці проста не меў на тое часу, але ў выніку яго аўто дагнала Mercedes і сутыкнулася з ім. Ад удару УАЗ нахіліўся набок, з дзясятак метраў праехаў на двух колах, а потым перакуліўся. У аварыі ніхто сур'ёзна не пацярпеў. Праз нейкі час на месца здарэння прыехалі калегі пацярпелых спецназаўцаў і паставілі перакуленае аўто на колы.

**Паводле Auto.onliner.by**




## Фура заехала ў гарод

У нядзелю 7 жніўня на цэнтральным скрыжаванні пасёлка Памежны фура пратараніла трактарны прычэп і ў выніку апынулася ў прыватным двары. Да сцяны дома засталося менш за два метры. Па інфармацыі ДАІ, кіроўца грузавіка праехаў на чырвонае святло. У выніку на скрыжаванні фура сутыкнулася з трактарам, які перавозіў збожжа. Прычэп перакуліўся а фуру панесла далей. Затармазіла яна толькі ў гародзе.

**СП**




## Геройскі ўчынак юнака

Гэта здарылася на вадасховішчы Рагазніца Мастоўскага раёна. Дзмітрый Халупа, навучэнец Слонімскага сельгаскаледжа, ішоў з сястрой купацца. Да іх падбег хлопчык і папрасіў дапамагчы — у вадзе тануў чалавек.

Дзмітрый убачыў у вадзе мужчыну і маленькага хлопчыка, які амаль схаваўся пад вадой. Не раздумваючы кінуўся ў ваду. Першым выцягнуў на бераг хлопчыка, а потым кінуўся ратаваць мужчыну. 16-гадовы юнак здолеў выцягнуць сталага мужчыну з пяціметровай глыбіні. Ён самастойна дацягнуў яго да берага, спыніў машыну і праз кіроўцу выклікаў «хуткую». Да прыезду медыкаў пачаў рабіць штучнае дыханне. Але выратаваць 55-гадовага мужчыну ўжо было немагчыма.

За мужны ўчынак Таварыства ратавання на вадзе будзе хадайнічаць аб уручэнні юнаку дзяржаўнай узнагароды.

**Паводле «Гродзенскай праўды»**




Дзмітрый Халупа злева.

## Сцісла

**• Выбух на Бярэзіне.** Каля вёскі Прудок Светлагорскага раёна на Бярэзіне прагучаў выбух. Выбухнула газапаветраная сумесь у плывучым паліўным баку судна, што выкарыстоўваецца для правядзення паглыбляльных прац. Капітан судна атрымаў апёкі 1-2 ступені 10% цела.

**• У Мінску раскрыта забойства 19-гадовай даўніны.** Злачынства было ўчынена ў 1992 годзе. 38-гадовая мінчанка адпачывала ў сваёй кватэры з 28-гадовым сябрам. Сварка, што ўзнікла паміж імі, скончылася бойкай з выкарыстаннем нажоў і праса, падчас якой жанчына была забітая. Устанавіць злачынцу ўдалося толькі ў жніўні 2011 года дзякуючы экспертным даследаванням, якія сталі магчымыя ў апошнія гады. Затрыманы, рабочы аднаго з мінскіх прадпрыемстваў, ужо прызнаўся.

**• Мужчына зваліўся ў 15-метровую студню — і ні драпіны.** У вёсцы Ліпнішкі Іўеўскага раёна мужчына зваліўся ў 15-метровы калодзеж (вышыня 6-га паверха). Аднак ён не атрымаў сур'ёзных траўмаў і адмовіўся ад шпіталізацыі. Паводле словаў пацярпелага, ён выйшаў у краму і вырашыў скараціць шлях праз двор нежылога дома, а там не заўважыў у высокай траве студню і зваліўся ў яе. Работнікі МНС выцягнулі мужчыну з дапамогай вяроўкі. Меркавана, мужчына быў нападпітку.

**• Пенсіянерка спаліла са смеццем восем гектараў збожжа.** На полі каля вёскі Антопаль Мінскага раёна было знішчана агнём 8,33 гектара азімага трыцікале. Пажар адбыўся з-за неасцярожнага абыходжання з агнём пенсіянеркі, жыхаркі Мінска. Яна паліла смецце паблізу свайго дачнага ўчастка ў вёсцы.

**СМ**



# Neuro Dubel

**19 жніўня ў Loft Cafe — канцэрт Neuro Dubel.**

**Пачатак а 20-й.**

PHOTO.BYMEDIA.NET

## СПОРТ

### Хакей: «Брэст» супраць «Ліды»

**20 жніўня ў мінскім Палацы спорту** — хакейны матч Кубка Беларусі. Скрыжуюць клюшкі ХК «Брэст» і ХК «Ліда». **Пачатак а 17-й.**

## КАНЦЭРТЫ

### Kosheen у Мінску

**12 жніўня ў парку Dreamland** пройдзе міжнародны музычны фестываль Stereoleto. У фестывалі возьмуць удзел музыкі, якія граюць у стылях trip-hop, lounge, disco, house, indie, electronic. Хэдлайнеры — легендарная брытанская група Kosheen. **Пачатак фэсту — 21.00.** Працягнецца ён да 6.00. Квіткі каштуюць ад 80 да 150 тыс. рублёў.

### Вольнае паветра—2011

**27 жніўня ў Беларусі** выступяць паўтара дзясятка этна-артыстаў з розных краін. Фестываль «Вольнае паветра—2011» пройдзе пад адкрытым небам на хутары Шаблі ля вёскі Малое Запруддзе (Валожынскі раён, 80 км ад Мінска ў бок Вільні, арыенцір — вёска Гародзькі).

Фестываль некалькі разоў адкладаўся цягам лета. Акрамя беларускіх выканаўцаў сучаснага фольку (Dzivasil, Akana, «Нагуаль»), выступяць музыкі з Расіі, Польшчы, Украіны, Літвы і Сербіі.

**Музыкі будуць іграць ад 15.00 да 6.00 раніцы.** Квіткі каштуюць 20 тысяч рублёў (уваход) ці 50 тысяч (уваход + кемпінг). Даведкі па т.: (029) 655-55-96, (033) 655-55-96.

### Тройца

**15 жніўня ў паб-клубе «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — канцэрт этна-трыа «Тройца». Гурт Івана Кірчука пачне чараваць а 19-й.

### Зміцер Вайцюшкевіч

**21 жніўня ў «Графіці»** зайграе Зміцер Вайцюшкевіч. **Пачатак а 18-й.**

### Apple Tea

**24 жніўня ў «Графіці»** — канцэрт ветэранаў беларускага джазу Apple Tea. **Пачатак а 19-й.**

### Chiefs Band

**10 жніўня ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — канцэрт гурта Chiefs Band. Свой стыль музыкі акрэсліваюць як «бульба-фанк». **Пачатак а 19-й.** Даведкі: (029) 638-44-44, (033) 638-44-44.

### Tarantino's party: гурт Silicon

**11 жніўня а 19-й у «Графіці» (зав. Калініна, 16)** канцэрт гурта Silicon. Гурт іграе рок-н-рол у стылі 1960-х з элементамі фанку і «гаражнага року». Даведкі: (029) 638-44-44, (033) 638-44-44.

### Блюз ад The Road Dogs

**12 жніўня а 19-й у «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — канцэрт гурта The Road Dogs. Даведкі: (029) 638-44-44, (033) 638-44-44.

## ВЫСТАВЫ

### Для будучых мам

**Міжнародная спецыялізаваная выстава-кірмаш тавараў і паслугаў для будучых мам, дзяцей і іх бацькоў «Нашым дзецям-2011»** пройдзе ад 23 да 31 жніўня ў выставачным павільёне «Белэкспа». На ёй, абяцаюць арганізатары, будзе прадстаўлены ўвесь асартымент тавараў для дзяцей ад нараджэння да 18 гадоў і ўсё патрэбнае ў гэты перыяд іх бацькам.

### Hand Made

**Арганізатары і ўдзельнікі Беларускага форуму рамеснікаў** падрыхтавалі выставу Hand Made ў мінскім Доме-музеі I з'езда РСДРП. На выставе можна ўбачыць творы, выкананыя ў разнастайных тэхніках, стылях і відах дэкаратыўна-выяўленчага мастацтва.

### Міхал Савіцкі. «Хлеб жыцця»

**У Музеі гісторыі Мінска (вул. Рэвалюцыйная, 10)** можна пабачыць выставу «Хлеб жыцця» народнага мастака Беларусі Міхаіла Савіцкага. На выставе — больш за 20 палотнаў мастака, створаных ім у апошнія 25 гадоў жыцця. Экспазіцыя складаецца з дзвюх частак: у першай дэманструюцца працы працоўнай тэматыкі, у другой — творы біблейскага цыкла. Выстава працуе да 5 верасня.

### Вялікія муміі Егіпта

**Да 12 жніўня ў Гістарычным музеі (вул. Маркса, 12)** працуе пазнаваўча-забаўляльны праект «Вялікія муміі Егіпта», што ўключае аднайменную выставу і кароткаметражны гульнёвы фільм «Цар скарпіёнаў» у 3D-фармаце.

### Выстава Паліны Вітушчанкі

**Да 13 жніўня ў паб-клубе «Графіці» (зав. Калініна, 16)** працуе выстава Nebulae Паўліны Вітушчанкі з Літвы. Nebulae — астранамічны тэрмін, які азначае імглістасць, г.зн. міжзоркавае воблака, якое складаецца з гелію, пылу, плазмы і іншых матэрыялаў. Імглістасць часам бывае першапачатковай стадыяй узнікнення зоркі. Асноўная тэма карцін — менавіта рух, яго праблематыка.

### Знак вады

**Да 13 жніўня ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** працуе выстава «Знак вады» — арт-праект мастака Васіля Касцючэнкі, які ўключае шэраг жывапісных палотнаў пра ваду як асноўную субстанцыю жыцця.

### «Італія, бацькаўшчына натхнення…»

**Да 4 верасня ў Мастацкім музеі (вул. Леніна, 20)** працуе выстава расійскага жывапісу са збору музея «Італія, бацькаўшчына натхнення…» У экспазіцыю выставы ўвайшлі творы Мацвеева, Айвазоўскага, Рэймерса, Броннікава, Ге.

### Лялькі і іх жыццё

**Да 15 верасня ў «Гасцёўні Уладзіслава Галубка» (вул. Старавіленская, 14)** працуе праект «Лялькі». Сёлета гэта не толькі выстава, але і лялечныя спектаклі па матывах беларускіх народных казак.

### Выстава жывапісу Л. Шчамялёва

**Да 20 жніўня ў гарадской мастацкай галерэі Л.Шчамялёва (пр.Ракасоўскага, 49)** працуе выстава твораў Леаніда Шчамялёва. У калекцыі прадстаўленыя працы майстра розных гадоў. Прысутнічаюць усе ўласцівыя для ягонай творчасці жанры: гістарычная карціна, пейзаж, партрэт, нацюрморт…

### З калекцыі выдавецтва «Віта Нова»

**У мастацкім музеі да 3 кастрычніка працуе выстава выдавецтва «Віта Нова» (Расія)**, каторае спецыялізуецца на калекцыйных ілюстраваных выданнях мастацкай, дзіцячай літаратуры, а таксама паэзіі, біяграфічных і літаратуразнаўчых кніг.

### Царства Аіды

**Да 20 верасня ў музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры (зав.Музычны, 5)** працуе выстава «Царства Аіды», на каторай прадстаўленыя фотаздымкі акцёраў, занятых у ролях у розныя гады, а таксама фотаздымкі сцэнаў са спектакляў, пачынаючы з 1953 года. Таксама можна ўбачыць эскізы касцюмаў Сяргея Нікалаева з фондаў музея…




PHOTO.BYMEDIA.NET

# Вітаю, школа!

Спецыялізаваная выстава «Вітаю, школа» пройдзе ад 23 да 31 жніўня ў павільёне «Белэкспа» (вул. Я.Купалы, 27). У выставе бяруць удзел беларускія прадпрыемствы-вытворцы.

## КІНО

### Першы мсціўца

Captain America: The First Avenger

ЗША, 2011, каляровы, 113 хв.
**Рэжысёр:** Джо Джонстан
**Ролі выконваюць:** Крыс Эванс, Х'юга Уівінг, Сэмюэл Л.Джэксан
**Жанр:** Комікс
**Адзнака:** 6 (з 10)

Роджэрс прагне адправіцца на вайну, змагацца з нацыстамі, але не праходзіць медкамісіі. У хлопца з'яўляецца шанец, калі доктар Абрахамс бярэ яго ў засакрэчаны атрад. Герою ўводзяць адмысловую сыроватку — і цяпер ён «капітан Амерыка» са здольнасцямі асілка. Ён пачынае змаганне з нацысцкай арганізацыяй «Гідра», якая імкнецца знішчыць усё чалавецтва.




Карціна Джо Джонстана — чарговы комікс, зняты ў традыцыі «Жалезнага чалавека». Яго адметнасць — стылёвыя цікавосткі саракавых. Прычоскі, аўтамабілі, гангстарскія капелюшы, эсэсаўскія касцюмчыкі «дрэнных» персанажаў. Кіраўнік «Гідры» пад тварам Х'юга Уівінга хавае чырвоную пысу пякельнага дэмана і гнюсны нораў, якому пазайздросціў бы каронны персанаж Уівінга — агент Сміт з «Матрыцы».

Бабулькі і прыгажуні ў фільме трапна страляюць, навукоўцы чаруюць над добрымі і дрэннымі цудамі, а галоўны герой дэманструе дзівосы акрабатыкі. Шчасны аптымізм, радасны пафас і заклікі пайсці ў амерыканскую армію працінаюць карціну. Стужка не толькі ідэйны комікс, але прадуманае камерцыйнае прадпрыемства, не пазбаўленае самаіроніі. («Капітан Амерыка» ў асобных эпізодах рэкламуе страхавыя акцыі).

**Андрэй Расінскі**

# Tax-free — адпачынак з прыбыткам

Вяртанне падатку робіць пакупкі за мяжой яшчэ больш выгаднымі.



Купіць тавар са зніжкай, а пасля яшчэ кампенсаваць частку сваіх выдаткаў — мара любога шапаголіка ці проста аматара ашчадзіць. Вядома ж, эканамічны крызіс моцна ўдарыў па кішэні беларусаў — і цэны рванулі ўверх, і вялікіх зніжак не знайсці. Але менавіта такой выгаднай схемай карыстаюцца тысячы нашых суайчыннікаў, якія раз-пораз выязджаюць за пакупкамі ў суседнія краіны.

Сістэма Tax-free дазваляе ім вярнуць больш за 10% ад цаны тавару. «Наша Ніва» разбіраецца, як атрымаць максімальную выгаду ад замежных пакупак. Неўзабаве эканоміць змогуць каля двух мільёнаў беларусаў — яны жывуць у памежнай зоне з Польшчай, Літвой і Латвіяй, таму змогуць пераязджаць мяжу па спрошчанай схеме.

### Як гэта працуе?

Tax-free — вяртанне падатку на дададзеную вартасць, у суседніх краінах ён складае 21—23%. Калі замежнік (напрыклад, беларус) набывае там нейкі тавар і збіраецца вывозіць яго, ён можа аформіць у краме спецыяльныя дакументы. На мяжы іх праверыць мытня і дасць дабро на вяртанне падатку. Варта не забываць некалькі важных «але». Па-першае, сума пакупкі павінна перавышаць вызначаную мяжу. Напрыклад, для Літвы гэта 200 літаў, для Польшчы — 200 злотых. Па-другое, дакументы можна аформіць не ва ўсіх крамах, а толькі ў тых, якія далучаныя да сістэмы. На іх дзвярах звычайна вісіць налепка «Tax-free». Па-трэцяе, да мяжы тавар нельга выкарыстоўваць — мытнікі са скепсісам паглядзяць на б/у-шыны, нават калі ў кіроўцы будуць дакументы пра іх пакупку.

### Як вяртаць грошы?

Пасля таго, як дакументы прайшлі мытню, можна задумацца пра вяртанне грошай. Ёсць некалькі варыянтаў, дзе іх забраць. У Беларусі пункт выдачы грошай толькі адзін — «Тэхнабанк» у Мінску. Тут можна вярнуць каля 11% ад сумы пакупкі, праўда, ў беларускіх рублях па курсу Нацбанка. Яшчэ адзін варыянт, які, на жаль, не працуе ў выпадку з Польшчай — банк на мяжы. На літоўскіх пераходах у банкаўскім акенцы можна атрымаць тыя самыя 11% — але ў літах. Нарэшце, можна вярнуцца ў краму, дзе быў куплены тавар, падчас наступнага падарожжа, і вярнуць грошы без камісіі. У найлепшым выпадку гэта будзе 16—18% ад сумы пакупкі. У выніку тавар, які і так у Польшчы таннейшы, чым у Беларусі, выглядае звыштанным. «Чаўнакі» ўдала карыстаюцца сістэмай, прывозячы на перапродаж бытавую тэхніку, аўдыё- і відэаапаратуру, згаданыя вышэй шыны і шмат чаго яшчэ.

### За чый кошт свята?

Узнікае лагічнае пытанне: хто ж плаціць за «банкет»? Сістэма Tax-free ўкаранялася некалькі дзесяцігоддзяў таму, калі ўрады еўрапейскіх краін вырашылі заваблівацъ турыстаў. Некаторыя крамы сталі плаціць ПДВ на тавары, прададзеныя замежнікам, не ў бюджэт, а пасярэднікам. Тыя гарантавалі, што выплацяць грошы пакупнікам. Прыбытак маюць усе: і турыст, і пасярэднік, і бюджэт краіны, у якую турыст прыедзе яшчэ не раз. Не мае матэрыяльнага прыбытку толькі крама, але і лішніх стратаў ад Tax-free ў яе няма.

### Калі наша чарга?

Беларусь, як і амаль усе краіны СНД (за выключэннем Грузіі), уводзіць на сваёй тэрыторыі такую сістэму адмовілася.

Але менавіта наша краіна выказвае гатоўнасць стаць у гэтым спісе другой. «За» выступаюць аблвыканкамы, Нацбанк, мытнікі, Мінгандлю. «Супраць» — толькі Міністэрства фінансаў. Але яго вета пакуль дастаткова, каб праект не быў рэалізаваны. Аргументы Мінфіна: гэта выкліча неабходнасць зменаў у падатковым заканадаўстве (калі гэта палохала беларускія ўлады?), а таксама спатрэбіцца ствараць сістэму адміністравання. Апроч таго, Мінфін асцерагаецца, што могуць вырасці чэргі на мяжы.

У выпадку ўвядзення Tax-free ў Беларусі скарыстацца яе выгадай не змогуць толькі расіяне. Агульная мытная прастора, а таму адсутнасць кантролю на мяжы, зробіць вяртанне падаткаў з іх пакупак немагчымым. А вось астатнія суседзі будуць толькі радыя патэнцыйнай выгадзе.

**Ягор Марціновіч**

СЭРВІС

## Замест гатэля ў аэрапорце «Мінск» — пакой маці і дзіцяці

Нацыянальны аэрапорт «Мінск» размешчаны за 40 км ад сталіцы ў кірунку Смалявічаў. Самы хуткі і зручны спосаб дабрацца да яго — гэта таксі. Але ён жа і самы дарагі. Калі вы едзеце з цэнтра, перавозчыкі возьмуць за дарогу 150—200 тысяч рублёў.

Самы танны, але і самы працяглы шлях у аэрапорт — на маршрутных аўтобусах, якія адпраўляюцца ад аўтавакзалаў «Усходні» і «Маскоўскі». Кошт праезду ад аўтавакзалаў да аэрапорта будзе каштаваць 8 тыс. руб. Апошні аўтобус у Мінск адпраўляецца ў 01:07. Калі пасажыр на яго не паспявае, ён або выклікае таксі, або можа пераначаваць на аэравакзале.

Але і тут ёсць свае нюансы. Гасцініцы там няма. Ёсць толькі «Пакой маці і дзіцяці». Адміністратар тлумачыць, што забраніраваць такі нумар нельга. «Мы працуем у парадку жывой чаргі. Спачатку размяшчаем дзяцей з бацькамі, потым ужо ўсіх астатніх. Калі вам месца не хопіць, можаце начаваць у самім аэрапорце — ён працуе кругласуткава».



**Адсутнасць гасцініцы — не адзіная праява нацыянальнага каларыту ў аэрапорце «Мінск-2».**

Умовы пражывання ў «пакоі» больш чым сціплыя — прыбіральня і душ агульныя. Маюцца аднамесцавыя, двухмесцавыя і чатырохмесцавыя нумары. Цана за ноч — 60 тысяч рублёў з чалавека.

Для груп пасажыраў Нацыянальны аэрапорт прадастаўляе трансфер. Кошт трансферу для 1—4 пасажыраў складае 200 тыс. руб., Для 5—10 — ужо 240 тысяч рублёў. Але такі рэйс трэба браніраваць на сайце кампаніі за суткі да адпраўлення.

**Tio.by**

ТУРЫЗМ

## Венецыя пасярод Мінска стане рэальнасцю?

Беларусь паставіць на паток будаўніцтва плывучых гатэляў.

Новыя плывучыя гатэлі могуць з'явіцца ў Беларусі, паведаміў міністр транспарту і камунікацый Іван Шчэрба. Ён растлумачыў, што праекты па стварэнні плывучых гатэляў — дастаткова стратныя, бо гаворка ідзе не толькі пра будаўніцтва платформы, на якой размяшчаецца гатэль, але і пра буксір, які яе павінен транспартаваць.

«Арганізацыі воднага транспарту самастойна такія праекты не пацягнуць, патрабуецца прыцягненне інвестыцый», — адзначыў міністр. Пінскі суднабудаўніча-суднарамонтны завод, які пабудаваў першы плывучы гатэль, гатовы да прыняцця новых замоваў.

**Паводле БелТА**



**Адзіны пакуль плывучы гатэль у краіне прышвартаваўся на Прыпяці ў Тураве.**

МОВА-2011

## Гарсон, рахунак!

Малы беларуска-расійскі слоўнічак для афіцыянтаў.

Лета — самы час наняцца афіцыянтам. Бо не толькі памяшканні рэстаранаў, але і прылеглыя веранды поўняцца ахвочымі пакаштаваць смачных страваў, а наўзамен развітацца з кроўна заробленымі, ды яшчэ гарсону адмыслова за гэта падзячыць.

Не сакрэт, чым больш моваў ці асобных словаў на розных мовах ведае афіцыянт, тым хутчэй расквеціцца ўсмешкай твар задаволенага кліента і тым хутчэй той раскашэліцца. Такім чынам афіцыянт, які не блытае каву з гарбатай, а шклянку з келіхам, мае шанец атрымаць большыя чаявыя (дарэчы, па-беларуску яны называюцца «гасціна»).

Вось жа, дзеля агульнай карысці маем гонар прэзентаваць невялічкі «Малы беларуска-расійскі слоўнічак для афіцыянтаў»:

**Алей** — подсолнечное масло. **Алівавы алей** — оливковое масло. А вось **масла** па-беларуску азначае выключна «сливочное масло».

**Вяршкі** або **смятанка** — сливки.

**Гарбата** — чай.

**Гарэлка** — водка.

**Гасціна** — чаевые.

**Гатоўка** — наличные деньги.

**Замова**, або **заказ** — заказ. «Заказывать» адпаведна будзе **замаўляць**, або **заказваць**.

**Кава** — кофе.

**Келіх** — бокал.

**Кілішак,** або **чарка** — рюмка, стопка.

**Кубак** — чашка, стаканчик (не стеклянный).

**Кухар** — повар. «Шеф-повар» адпаведна будзе **шэф-кухар.**

**Палічыць** — подсчитать.

**Распушчальная** — растворимая, растворяемая.

**Рахунак** — счёт. **Рахунак, калі ласка!** — Счёт, пожалуйста!

**Рэшта** — сдача.

**Страва** — блюдо.

**Страўня** — ресторан, закусочная, столовая.

**Сурвэтка** — салфетка.

**Таца** — поднос.

**Шклянка** — стеклянный стакан.

*Удалай вам працы, шаноўныя афіцыянты! Тлустай вам гасціны!*

**Склаў Сямён Цыбульскі**

НАРОДНЫ РЭЦЭПТ

## Антыкрызісныя сушы з хрушы

Усім гурманам беларускай кухні, аматарам японскай і тым, каму грошыкаў хапае толькі на сухары, а не вёслы, — прапануем! Сушы «Антыкрызісныя» па-беларуску і без цэнзуры.

Іх лёгка прыгатаваць у хатніх умовах, на кухні ў 4 кв. м. Але адчуванне крызісу можа памяншацца суадносна павелічэнню плошчы кухні. Тады сушы выйдуць іншыя.

Прапануем Вам класічны рэцэпт «Антыкрызісных» сушы.

Замест нігіры возьмем скурку парсючка, можна крыху падсмажаную, з пахам дыму. Галоўнае — каб шчэці было паменей. Рыс заменім роднай кожнаму беларусу бульбай. Можна і егіпецкай. А начынім агуркамі ды салам — гэта бліжэй нам, чым невядома дзе злоўленая чырвоная рыба.

Сушы цырыманіяльна ўжываюць з васабі, а беларускія «Антыкрызісныя» — з цыбуляй. І калі ў краіне ўзыходзячага сонца не абыходзяцца без сакэ, то ў цэнтры Еўропы да сушы трэба падаваць гарэлку.

Калі будзеце есці гэтую страву, размову трэба весці выключна пра крызіс і шляхі выхаду з яго, пра палітычную сітуацыю ў краіне, рэвалюцыю, мір і каханне.

Смачна есці!

**Дар'я Гаўрылава, Мінск**

**У Мінску прайшоў скутар-фэст. Кіроўцы маленькіх матацыклаў спаборнічалі і ў экстравагантнасці ўбораў.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Анекдоты

* * *

Тэлефануе Абама Лукашэнку і пытаецца:

— Аляксандр Рыгоравіч, як табе кожны раз удаецца так элегантна перамагаць на прэзідэнцкіх выбарах? Падзяліся сакрэтам.

Лукашэнка адказвае:

— Сакрэт просты, зараз я табе адпраўляю Ярмошыну, і ты гэтак жа элегантна пераможаш, як і я.

Выбары ў Амерыцы завершыліся. Ярмошына абʼяўляе вынікі галасавання: Абама Барак Хусэйнавіч — 3%. Ромні Міт Джорджавіч — 3%, супраць усіх — 4%, а 90% прагаласавала за Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнку.

* * *

Цікава, калі паставіць помнік голубу, гэта іх хоць неяк спыніць?

* * *

Калі ў сваёй паштовай скрынцы вы выявілі ліст, у загалоўку якога маюцца словы «парадак» і «ваенкамат» — знішчыце яго не адкрываючы. У ім знаходзіцца небяспечны вірус, які можа пазбавіць вас інтэрнэту і кампʼютара на паўтара года.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**У часе Усебеларускіх сустрэч каталіцкай моладзі, што прайшлі выхаднымі ў Івянцы, знаходзіўся час і для малітваў, і для забаваў.**

## «НН» сто гадоў з вамі

**У віленскіх польскіх газетах апошнімі днямі была надрукаваная вестка, колькі душ жыве ў Вільні.** Аказалася, усяго 217 тысяч. Паводлуг рэлігіі яны дзеляцца гэтак: жыдоў — 101 тысяча, каталікоў — 98 тысяч і праваслаўных — 8 тысяч. Між каталікамі ў Вільні лічыцца толькі 4 тысячы літвінаў, значыць — пішуць польскія газеты — палякаў тут 94 тысячы. З гэтага бачым, што польскія газеты не знайшлі ў Вільні ніводнага каталіка-беларуса. Ці ж гэта праўда?

**«НН». № 31. 1911.**

**27 ліпеня, на Дзень Незалежнасці,** прафбюро Дырэкцыі перспектыўнага вяшчання 1-га нацыянальнага тэлеканала, у якую ўваходзяць практычна ўсе творчыя супрацоўнікі БТ, аднагалосна прыняло адкрыты зварот да новага кіраўніка Валерыя Скварцова. Супрацоўнікі БТ скардзяцца, што за гэты год адбылося разбурэнне тэлебачання.

**«НН». № 31. 2001.**



DRUGOI.LIVEJOURNAL.COM

**Расійская прэзідэнцкая перадвыбарная гонка абяцае быць насычанай стрыптызам. Услед за акцыяй «Парву за Пуціна», арганізаванай прыхільніцамі расійскага прэм'ера, якія рвалі на сабе адзежу, у Маскве адбылася акцыя групоўкі сацыяльных сетак «Мядзведзеў — наш прэзідэнт!» Дзяўчаты распраналіся, калі гледачы адмаўляліся ад піва, зліваючы яго ў спецыяльныя вядзёркі. Здавалася б, прычым тут Мядзведзеў?**



DRUGOI.LIVEJOURNAL.COM

**Мастак і гаспадар невялікага звярынца з украінскага мястэчка Васільеўка (Запарожская вобласць) Аляксандр Пылышэнка збіраецца 35 дзён пражыць у клетцы з ільвіцай. Гэтак ён ці то хоча трапіць у Кнігу рэкордаў Гінэса, ці то збірае грошы на вялікі заапарк.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

**Наклад 7360.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 09.08.2011.
Замова № 3810.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12